
Ева ЛЮНДА → 3



Анатоль ПАРЭМБСКІ → 5


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3339) Год LXV | Беласток, 10 мая 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Новы, бо чарговы, пачатак дзейнасці асяродка культуры ў Міхалове

**Размова з Паўлам Азяблам — дырэктарам Асяродка культуры ў Міхалове.**

**— Асяродкі культуры закрытыя. Ты адкрыў дзверы, але наогул ніхто сюды не заходзіць — каранавірус, вядома. З траўня Ты стаў на пасаду дырэктара Асяродка культуры ў Міхалове. Не хвалюешся? Бо пачатак маеш даволі цяжкі.**

— Так, гэта праўда. Пачатак, беручы пад увагу ўмовы, вірус COVID-19, на жаль, не просты. Гэта новая сітуацыя для ўсіх дырэктараў, не толькі новых так як я, але таксама для вопытных, якія вялі культурныя ўстановы цягам многіх гадоў. Ну, але не такія рэчы мы рабілі і нам трэба знайсці сабе месца ў новай сітуацыі. Калі гаварыць пра цяперашні час, падобна як і ў іншых асяродках культуры мы перанеслі дзейнасць у сацсеткі. Штодзень змяшчаем адукацыйныя фільмы — музычныя, культурныя, пластычныя. Зараз магу ўжо сказаць, што ад наступнага месяца ўвядзем таксама аэробіку, заняткі на перкусіі, а таксама музычныя заняткі на беларускай мове.

**— Ты зрабіў даволі бліскучую кар'еру, выступаеш з вядомым ва ўсёй Польшчы, і не толькі, гуртом „Oddział Zamknięty". Некаторыя маглі б здзіўляцца, чаму Ты не кінуў сваёй невялікай мясціны, вёскі і не з'ехаў у вялікі горад, а застаўся тут, на месцы?**

— Вышэйшую адукацыю, як на мае ўмовы, я атрымаў у даволі вялікім горадзе — Беластоку, бо ўсё жыццё я жыў у невялікай вёсачцы Пянькі, што ў гміне Міхалова. Хаця Беласток не такая ўжо вялікая метраполія, але не ўцягнуў мяне настолькі, каб я пажадаў памяняць месца жыхарства. Я люблю прастору і з'яўляюся даволі шумным суседам, таму не прыжыўся б у блоку. Я музыка і ўсім перашкаджаў бы. Тут у мяне многа зелені, тэрыторыя прыгожая і натура вельмі добра ўплывае на свабоду творчасці.

**— Творчай таксама была Твая святой памяці бабуля, якая арганізавала самадзейны тэатр, і для якой неабыякавай была беларуская культура. Ці таксама Ты ў сваёй працы на пасадзе дырэктара асяродка культуры плануеш працягваць папулярызацыю беларускай культуры?**

— Так. Як я ўжо сказаў, мы рэалізуем вакальныя заняткі, якія вядуць Юрка Астапчук і Багуслава Карчэўская — вядомыя не толькі ў ваяводстве, але і Польшчы члены гурту „Прымакі".

**— Гэта праўда, што ў вашай гміне няма ніводных беларускіх калектываў?**

— А не, гэта няпраўда. На гэтую хвіліну маем гурты „Czerwone Szpilki" і „Słowiańska Nuta", якія дзейнічаюць у нашым асяродку і шмат што памянялася. У перыядзе пандэміі, у якой мы апынуліся, увялі мы шэраг заняткаў анлайн, таксама вакальных на беларускай мове. Маем інструктараў — Юрку Астапчука і Багуславу Карчэўскую, вядомых як „Прымакі". Цяжка знайсці лепшых майстроў у сферы беларускай песні. Вядзём трансляцыю, прапануем тэксты на беларускай мове, кожны мае нагоду, каб супольна з імі паспяваць. Водгук ёсць вельмі добры, а кантактуемся, беручы пад увагу сітуацыю, праз інтэрнэт. Удзельнікі іх майстар-класаў дасылаюць мне фільмы, іхнія поспехі безупынна кантралююцца. Файна, што многія з тых, якія іх не ведалі, зараз таксама пачалі слухаць „Прымакоў". Гэта відаць па вельмі добрых каментарыях. Акрамя таго, яшчэ перад пачаткам пандэміі, мы пачалі запісваць кружэлкі беларускіх гуртоў. Як толькі эпідэмія скончыцца, плануем выдаць альбом. Рыхтуем матэрыял. Зараз мы на этапе міксаваня і мастэрынгу. Усё пачалося з запісу сінгла „Міхалоўская зямля" з нагоды Беларускай бяседы, фолькавых сустрэч. Там прайшла прэм'ера гэтай песні, мы нават зрабілі відэа-ролік на сцэне, дзе заспявалі ўдзельнікі заняткаў супольна з гуртом „Прымакі".



**— Хто з'яўляецца аўтарам тэксту?**

— З'яўляецца ім калектыў „Прымакі". Гэта аўтарскі тэкст пра Міхалова. Акрамя таго гурт „Світанак" з Беластока і гурт „Росы" з Рыбалаў. Мы запрасілі да супрацы гурты з цэлага рэгіёна, зрабілі поўны матэрыял — гэта 10 твораў на кожную кружэлку. Чакаем канца эпідэміі і тыя гурты таксама будзе можна пачуць на нашых мерапрыемствах. Таксама нашы міхалоўскія калектывы, напрыклад Мірэк з гурту „Słowiańska Nuta" спяваў сола на беларускай мове. Спадзяюся, што неўзабаве зможаце гэта паслухаць. Рыхтуецца сапраўды вельмі цікавы матэрыял.

**— У гміне Гарадок маем „Сяброўскую бяседу", а ў вашай таксама адбываецца нешта падобнае — „Прымацкая бяседа", затое няма рок-фестывалю "Басовішча" на якім Ты таксама выступаў. Думаеш можа аб гэтым, каб тут праводзіць падобнага тыпу рок-фестываль?**

— Я ўжо аб гэтым думаў. „Басовішча" было для мяне першым сур'ёзным канцэртам. Упершыню я выступіў там у 2003 годзе, пазней у 2004, 2006, 2008 і, здаецца, што яшчэ ў 2015 годзе. Ужо тады мне здалося, што я — прафесіянал і што я стаю на такой жа сцэне. Гэта быў вельмі важны фестываль, абвешчаны ва ўсходняй Польшчы беларускім Яроцінам. Будучы яшчэ дзіцём, помню як праз невялікую мясцовасць праязджаў натоўп людзей. Думаю, што варта зрабіць прынамсі нешта падобнае да „Басаў" і схіліцца над рок-музыкай. Вядома, што калі гаворым пра беларускую музыку, зразу ўсе звязваюць яе з фолькам, але існуе таксама фольк-рок і розныя артысты звязаныя з альтэрнатыўнай музыкай, прыкладам чаго былі „Басы". Хаця цягам гадоў многае памянялася, але там заўсёды была цяжкая музыка: гард-рок, рок. Зараз маю ўвагу прыцягнуў гурт „Navi" — сужонства, якое спявае ў двухгалоссі. Гэта вельмі добрая музыка, прафесійна зробленая і намнога лягчэйшая, чым тая, якая асацыявалася з „Басовішчам". Файна, што гэта пайшло ў гэты бок і фестываль адкрыўся на іншыя музычныя напрамкі.

**— Дзякую за размову і віншую з прызначэннем на пасаду!**

— Спадзяюся, што хутка пабачымся на мерапрыемствах у гміне Міхалова. Запрашаю.

Размаўляла
**Уршуля ШУБЗДА**





# Атрута

Даволі шмат апошнім часам мне даводзілася спрачацца з многімі нават аднадумцамі наконт таго, як называць сённяшнюю ўладу Беларусі. З аднаго боку, гэта адзіная рэальная ўлада ў дзяржаве, якая называецца Рэспубліка Беларусь. І таму, у адпаведнасці з рэчаіснасцю яе і трэба так называць — чыноўнікі РБ, міністры РБ і так далей. У той жа час такія найменні як „беларуская дзяржава", „беларускі прэзідэнт", „беларуская палітыка" (яны часта выкарыстоўваюцца нават у незалежных медыя і дэмакратычнымі дзеячамі) у дачыненні да тых асоб, якія стаяць на чале дзяржавы, кіруюць ёй, ніяк не адпавядаюць сутнасці іх дзеянняў. Каб не быць галаслоўным, возьмем канкрэтны прыклад. Вось міністрам адукацыі РБ з'яўляецца такі чыноўнік як Игорь Карпенко. Больш антыбеларускага чалавека цяжка знайсці. Быў у нашай найноўшай гісторыі вельмі адукаваны, прыстойны з дзяржаўным мысленнем чалавек Генадзь Карпенка, які пакінуў пасля сябе вельмі добрую памяць. Чалавек, які мог прэтэндаваць на вышэйшую пасаду ў краіне і некаму моцна перашкаджаў. На жаль, яго заўчасна не стала. А згаданы вышэй Карпенко нарадзіўся ў Расеі і ўсё беларускае яму чужое, усё беларускамоўнае яму ненавіснае. Усё сваё працоўнае жыццё ён займаўся дзяржаўнай ідэалогіяй, узначальваў адыёзную камуністычную партыю, пасля чаго ў 2016 годзе і быў пасаджаны ў крэсла міністра адукацыі. Пастаўлены ўшчэнт дабіць гэтую адукацыю, давесці яе татальную русіфікацыю да канца. Дык як яго можна назваць беларускім міністрам? Як ён паводзіць сябе ў час пандэміі, толькі пацвярджае ўсё сказанае.

Асобная гутарка пра першую персону дзяржавы. Чалавек, які даўно растаптаў усе асабістыя і грамадскія маральныя нормы, разбурыў канстытуцыйныя парадкі, разагнаў парламент, фактычна скасаваў выбарчую сістэму, знішчыў палітычных апанентаў, зняважыў народны мемарыял Курапаты, можа называцца беларускім прэзідэнтам?! Але дэ-факта ён начальнік дзяржавы, аднаасобны кіраўнік Рэспублікі Беларусь, „глаўнакамандуюшчы" арміяй. І менавіта так, калі выкарыстоўваць нейтральныя юрыдычна тэрміны, і трэба яго называць. Існуюць і розныя эўфемізмы для наймення канкрэтнай фігуры. Але называць яго беларускім прэзідэнтам катэгарычна нельга. Бо гэта азначае ўскоснае, а часам і найпраставае прызнанне ўсяго амаральнага і незаконнага, што зрабіў гэты правіцель.

Беларусь зараз атручваецца рознымі спосабамі. І эксперымент на выжыванне з каранавірусам яшчэ не самае страшнае. У многіх гарадах краіны — Светлагорску, Смаргоні, Бярозаўцы, Брэсце, Гродне, іншых месцах — пабудаваны ці будуюцца і плануюцца новыя шкодныя прадпрыемствы. На атручаных чарнобыльскіх землях заклікаюць да вырошчвання харчовых культур. Неўзабаве будзе запушчана смяротна небяспечная для ўсёй краіны і цэлай Еўропы Астравецкая атамная станцыя. Але найбольш страшнай атрутай для Беларусі з'яўляецца русіфікацыя, якую ўжо чвэрць стагоддзя вядуць у нашай краіне набрыдзі і манкурты. Яна дзейнічае не так хутка як шкодныя адкіды хімічнай вытворчасці ці радыеактыўны цэзій. Гэта атрута запаволенага дзеяння, крыху схаваная ўладнай сістэмай навучання, усімі дзяржаўнымі структурамі і схаваная (гэта значыць праглынутая — даруйце за слэнгавае слова) інертным народам. Бо менавіта гэтая русіфікацыя прыводзіць да гістарычнага бяспамяцтва, да залежнасці і халуйства перад імперскім усходнім суседам, да няздольнасці бараніць сваё, да духоўнай дэградацыі і як вынік да таго, што беларускі народ як грамадзянская супольнасць пераўтвараецца ў паслухмяную рабскую масу, якую не палохае нават пагроза страты сваёй дзяржаўнасці. Русіфікацыя разбурае асноўны генетычны код беларусаў, здольнасць адрозніваць сваё ад чужога, усведамляць палітычныя і эканамічныя небяспекі, асабістыя страты.

За гэта адказныя не толькі тыя, хто праводзяць гэтую русіфікацыю. Той, хто моўчкі яе праглынае, хто лічыць, што гэта другасная з'ява, хто самападманваецца фальшывым двухмоўем — таксама стаў на бок зла. І ніяк інакш...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чорт не прыгожы



Некалькі тыдняў таму я проста звар'яцеў ад страты файла з фатаграфіяй «Сустрэча са Славянкай». Неацэнны фатаграфік Ян даслаў мне яго па электроннай пошце, і адразу мяне зачараваў, ды праз некаторы час я зачыніў файл, каб унутрана супакоіцца. Я выпрабаваў прыгажосць ва ўсёй яе прастаце. Зачыняючы файл, я, напэўна, націснуў няправільную клавішу, таму што калі ён зноў адкрыўся, аказаўся пустым. Дарэмна шукаў я ўва ўсёй скрыньцы. Піксэлі, якія складваліся на фота Яна, назаўсёды зніклі. Нібы д'ябал прыкрыў іх хвастом. Эх, я ўспомніў словы з «Вяселля» Выспянскага: «меў ты залаты рог...».

Прыгажосць і асабліва прыгожыя ідэі нас здзіўляюць. Яны з'яўляюцца раптоўна і нікуды не знікаюць, як быццам хочуць толькі на імгненне зазззяць, нацешыць сваім святлом і прабудзіць чалавечыя чаканні і спадзяюцца толькі пакінуць у яго свядомасці толькі свае недасканалыя абрысы, незразумелы след, бо неўзабаве пасля гэтага беспаваротна яны раскінуцца ў цемры маўклівай свядомасці. З гэтага пункту гледжання здаецца, што адзінае, што з'яўляецца пастаянным, гэта... брыдота. Экзістэнцыяльныя прыцемкі, душэўны мул. Хіба чалавечы мозг дэманструе глыбокую агіду, нават паталагічную індывідуальную неперанoснасць да прыгожага? І гэтую прыгажосць ён жорстка адхіляе? Вельмі засмуціла мяне гэтая магчымасць. Я шмат разоў перажываў гэты стан, стан абсалютнага расчаравання. Бо як жа балюча дакранацца да нечага пачуццёвага, што ў момант свае прысутнасці хавае ўласную форму, сэнс і знамянальнае значэнне. Мы ведаем, што ў нас узнікла нешта важнае, нешта прыгожае, на жаль, гэта веданне амаль адразу ж дае магчымасць сумнявацца. Ці маем мы справу з прыгажосцю самой па сабе, ці гэта быў проста ўнутраны міраж, нейкае ілжывае ззянне нашай паўсвядомасці? Нарэшце, мы з роспачу пытаемся, ці мы маем справу з рэальным досведам прыгажосці, ці проста эпізадычным актам расколу асобы? Таму на ўсялякі выпадак і, баючыся псіхічных захворванняў, мы старанна размываем памяць, вядучую да таго, што нам здавалася прыгожым. Мы кажам тады, што прыгажосць небяспечная, пагрозлівая. Апартуністычна мы выбіраем брыдоту, таму што мы прывыклі да яе і, нарэшце, мы ёй давяраем. Прызнаюся, апартунізм, закладзены ў маім мозгу, зводзіць мяне з розуму. Ды колькі ж разоў я быў шалёны? Д'ябал у гэтай гісторыі — увасабленне найвышэйшай брыдоты — адважліва паводзіць сябе ў нашым чалавечым жыцці. Цікава таксама, што ён займае нашу ўвагу больш чым тое, што ён уяўляе ў больш узнёслай ідэі Бога. Д'ябал займае бачнае месца ў заходняй культуры. Ён прысутнічае як у нашым паўсядзённым жыцці, так і ў палітыцы. Гэта таксама незаменны знак асвятлення ў СМІ. Знаходзячыся ў маленькай душэўнай дзірцы, я вырашыў перачакаць смуту перад тэлевізарам. Я глядзеў на экран увесь дзень. Вечарам я зноў уключыў гэтага гада і — жахнуўся. Не было ніводнай тэлевізійнай станцыі, дзе б д'ябал не замачыў свайго хваста. Таму я глядзеў дакументы, якія тычацца канца свету і абвяшчаюць пра хуткі Апакаліпсіс, цыклічныя праграмы пра злых духаў, змовы — ад палявання на ведзьмаў да жахаў, папахваючых д'ябальскай серай... Нейкія гісторыі пра сустрэчу з пякельнымі сіламі, якіясь гутаркі пра замагільнае жыццё... Усё адмоўнае. Нічога станоўчага. Толькі брыдота і агіда. Ва ўсім гэтым д'ябал, несумненна, макаў свой хвост. Мае архетыпічныя страхі і фобіі пачалі выпаўзаць з мяне, як чэрві з трупа. Калі гэта свет, прадстаўлены на тэлебачанні, універсальны носьбіт інфармацыі, то чый гэта свет? Гэта свет касцёла? Несумненна, касцёл атрымлівае карысць ад страху перад цёмнымі сіламі, ён сілкуецца чалавечымі страхамі. Але што гэта за касцёл, які мае зброю не добрага духа, а д'ябла? Чорта, які сее паразы і песімізм? А хто вінаваты ў пачварнасці ?! Я не магу ўсё гэта бачыць. І таму, па сваёй перакручанай прыродзе, я выкінуў тэлевізар у сметніцу. Наступны дзень пасля гэтай падзеі я праспаў. Мне снілася, што шліфую слова за словам, коску за кропкай, вельмі важны тэкст, што дзівіць мяне нават зараз, калі я пішу гэтыя словы, сваёй прастатой і прыгажосцю выяўленых прапаноў. Але не памятаю яго зместу. А можа, мне не трэба было яго памятаць. Я ўспомніў нарыс Бруна Шульца «Міфізацыя рэчаіснасці». «Філасофія, — піша ён, — на самой справе філалогія, гэта глыбокае, творчае вывучэнне кожнага слова». Такім чынам я вывучаю сон у сваім розуме. Магчыма, ён спрабуе аднавіць страчаную прыгажосць, кранутую фатаграфіяй Янкі Туронка.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Каранавіруснае падарожжа

Велікодна-памінальны перыяд нагадвае нам пра ўжо адышоўшых, але з'яўляецца таксама добрай нагодай да сямейных сустрэч, каб згадаць мінулае і цешыцца яшчэ зямным жыццём. У гэтым годзе нават памінальныя дні ў сувязі з агульнавядомай заразай не дазволілі многім здзейсніць адвечны рытуал памяці, а менавіта наведванне магіл. Здаўна удзельнічаюць у ім усе, нават тыя, якіх нага цягам усіх гадоў жыцця не надта часта пераступае парог храма, найчасцей менавіта ў час пахавання сямейнікаў, аднавяскоўцаў ці сяброў. Веснавы перыяд Уваскрэсення Гасподняга, спалучаны з прабуджэннем і выяўленнем прыроднага характва, дае чалавечаму вандраванню прыток такіх духоўна-біялагічна-эстэтычных сіл, ад якіх проста хочацца жыць. Два тыдні назад, пішучы ў гэтым месцы пра паміданне і праміданне, адлюстраваў я менавіта свае духоўныя перажыванні, звязаныя з прасторай роднай вёскі і яе людзьмі ў святочны перыяд. Сямейныя абавязкі і маральны імператыў ушаноўвання продкаў натуральным чынам падштурхнулі мяне ў дарогу на свой бацькоўскі парог. Але паміж задуманым, а здзейсненым у гэтым выпадку з'явілася вялікая разыходжанасць, якая мела адну вялікую загвоздку: як дабрацца ў Гайнаўку? А ўся справа заключаецца ў абмежаваннях грамадскага і прыватнага транспарту ў гайнаўскім напрамку. Тут свае „пяць грошай" прыткнулі акурат першамайскія выходныя, што на практыцы абазначала толькі адну сітуацыю — з пятніцы па нядзелю ўключна з Беластока ў Гайнаўку і назад не вырушыў у трасу аніводзін аўтобус! Калі не маеш машыны, то хоць сядай і плач — можаш толькі памарыць пра сваю любімую Гайнаўшчыну. Дзеля поўнага вобразу яшчэ толькі згадаю, што адбудова чыгуначнага маршруту Гайнаўка-Беласток надалей працягваецца ў бліжэй невядомы тэрмін заканчэння. Адным словам, поўны калапс. Давай тады дабірацца яшчэ ў чацвер, апошнім, гайнаўскім аўтобусам пасля шаснаццатай гадзіны. Абавязваючы зараз прынцып кожнага другога месца ў грамадскім транспарце і „маёўка" інтуітыўна падказалі мне з'явіцца ў касе на гадзіну перад ад'ездам і набыць квіток. Чаканне аўтобуса правёў я ўвесь час стоячы, бо вакзал каранавірусам закрыты для падарожных, а нешматлікія лавачкі былі заняты, або так абсараны галубамі, што ніхто не адважыўся прысесці хаця б на момант. Падумалася мне тады, што не толькі нябачныя вірусы, але і звычайныя галубы пачалі выцясняць людзей з адкрытай прасторы. У гэтай справе маю свой асабісты, жыццёвы вопыт, бо ў адным з фельетонаў апісваў сваё змаганне з галубамі на правa выхаду на неабгаджаны галубамі балкон у кватэры. І калі надышоў доўга чаканы момант прыбыцця аўтобуса на адпраўную платформу, людзей з'явілася мнагавата, так што некаторым прадбачылася, што, мабыць, не ўсе патрапяць у салон машыны. Зразумела, у такім выпадку гаварыць пра межы бяспекі, захаванне дыстанцыі двух метраў паміж жадаючымі ад'ехаць можна было забыць адразу. Зменшаная ўдвая колькасць месцаў падняла вельмі моцна ўгару адрэналін у пасажыраў. Нягледзячы на пол і ўзрост, колькасць грубіянскай лаянкі ўспыхнула раптам як той неспадзявана расцвілы майскі бэз. Пасля маіх каранцінных самаабмежаванняў, вярнуўся я вельмі хутка ў грамадскую штодзённасць. На шчасце аўтобус аказаўся быццам з гумы і ўсе жадаючыя ўперліся ў яго дзеля падарожжа ў гайнаўскім напрамку. Але на наступных беластоцкіх прыпынках шафёр ужо не спыняўся, хаця жадаючых ехаць былі там бачны. Звыш паўтары гадзіны падарожжа дазволіла мне дакладней прыгледзецца жахліваму недахопу вады на ўсёй пабачанай тэрыторыі ўключна з прыпаленымі штучнымі ўгнаеннямі і замаразкамі пасевамі азіміны. Але ўсю дарогу мучыла мяне адно пытанне: а як мне і на чым прыйдзецца вяртацца ў Беласток у нядзельку 3 мая? Даехаць з Гайнаўкі ў сваю вёску — справа была вырашана. Чакаў там проста сябра, які ашчасліві мяне сваёй дапамогай. А пры вяртанні не абышлося проста без сямейнай дапамогі. У свой беластоцкі мурашнік вечаровай парою, адвёз мяне родны брат. Каранавіруснае падарожжа завяршыла свой круг.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Усё залежыць ад таго, што перакажам нашым дзеткам

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— З беларускай мовай я звязана ад пачатку свайго жыцця. У маёй роднай хаце бацькі гаварылі на нашай дыялектнай беларускай мове, потым пачатковая школа з беларускай мовай, ліцэй у Гайнаўцы (таксама з беларускай мовай). Тады я рашыла, што хачу далей вывучаць беларускую мову. І так гэта пачалося.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Ідэалам настаўніка роднай мовы была мая настаўніца, якая вучыла мяне ў пачатковай школе — спадарыня Бэбко. Ніколі не забуду яе ўрокаў і казак, якія так цудоўна нам расказвала і якія засталіся ў маёй памяці да сённяшніх дзён.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Супрацоўніцтва і абмен вопытам неабходныя, каб узбагаціць урокі беларускай мовы. Абавязкова пры гэтым хачу ўспомніць імёны маіх сябровак, з якімі я супрацоўнічаю. Гэта Эліза, Яланта, Анджэліна, Аня, Марыся, Беата, Эля.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Беларускі музей у Гайнаўцы, газета „Ніва" а таксама Радыё Беласток і Радыё Рацыя. Не магу не ўспомніць пра спадарыню Іаанну Троц і яе спектаклі.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Кожны год цыклічна адбываецца ў нас дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі „У родным слове цэлы свет", у якім удзел бяруць вучні ад першага да восьмага класаў.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Вельмі люблю конкурс беларускай песні

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— У школе ў Дубічах-Царкоўных заўсёды магу разлічваюць на падтрымку бацькоў, спадарыні дырэктар, а таксама Гміннага асяродка культуры

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Складанасці няма. Я заўсёды магу разлічваць на добразычлівых людзей, якія навокал мяне.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Напэўна хацелася б больш чаго расказаць сваім вучням. Цяпер урокі цікавейшыя, але і патрабуюць шмат часу, каб іх падрыхтаваць




**Ева ЛЮНДА** (з дому Галёнка) нарадзілася ў вёсцы Барок каля Гайнаўкі. Пачатковую адукацыю атрымала ў Арэшкаве, а далей у Новым Беразове. Пасля паступіла ў Гайнаўскі белліцэй, затым закончыла беларускую філалогію на Універсітэце ў Беластоку.

Сёння жыве ў Істоку, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя, дзе працуе настаўніцай.

Пра свае хобі кажа: „я вельмі люблю спяваць". Спадарыня Ева спявае ў калектыве «На шчасце», які дзейнічае ў Дубіцкім доме культуры.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне восем лаўрэатаў прадметнага конкурсу.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Сучаснасць, на жаль, вельмі хутка мяняецца, яе не дагнаць. Таксама справа выглядае і з падручнікамі.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Вельмі добра працавалася на падручніках для гімназіі.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Віктар Швед

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— ...

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Калі б не гэтая цікавасць, адкуль апытальнік?

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Паводле мяне, „Беларуская песня" і „Басовішча".

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Па-за ўрокамі і ў хаце я найчасцей размаўляю на дыялектнай мове.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Такіх успамінаў у мяне няма, і хацела б, каб ніколі іх не было.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Сітуацыя, у якой мы цяпер апынуліся.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Яшчэ напэўна будуць.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Не раз я атрымала ўзнагароду дырэктара школы, але для мяне найбольшай узнагародай ёсць тое, калі мой вучань скажа „дзякую".

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу і натхненне даюць мне мае цудоўныя вучні.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Цяжка выбраць адзін успамін, іх шмат.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У нашай школе адзін клас, дзе не толькі ёсць нацыянальныя сімвалы, але і іншыя прылады, якія напамінаюць пра нашу мінуўшчыну.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Цяжка гэта прадбачыць, аднак усё залежыць ад таго, што перакажам нашым дзеткам.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Гаспадары апасаюцца засухі



**Гаспадары, якія гадуюць кароў, вырошчваюць збожжа, агародніну і садавіну апасаюцца вялікай засухі, якая ў гэтым годзе можа быць яшчэ большай ад мінулагодніх. Зімой амаль не ляжаў на палях снег. У лютым выпала крыху дажджоў, але да мая зямля перасохла, а частыя начныя прымаразкі і моцнае сонца днём у красавіку яшчэ паскорылі працэс перасушвання глебы. Калі б пачалі падаць больш інтэнсіўныя і аблажныя дажджы, прырода магла б яшчэ вярнуцца ў сваё рэчышча. У пачатку мая метэаролагі прадугледжваюць ападкі дажджу, але ў цэлым вясной і летам спецыялісты прадбачваюць яшчэ большую засуху, чым у мінулых гадах, што можа выдатна абмежаваць сельскагаспадарчую прадукцыю і гэтага моцна апасаюцца самі гаспадары. Паяўляецца штораз больш меркаванняў экспертаў, што цэны харчпрадуктаў у магазінах могуць у гэтым годзе моцна павысіцца, што адчулі б усе жыхары гарадоў і вёсак. Прапануецца рабіць застаўкі ў меліярацыйных равах, каб стрымліваць адплыў вады з палёў і ўжо з пачатку вясны паявіліся заклікі ўлад, каб ашчаджаць ваду падчас карыстання ёй штодзень. Эксперты звяртаюць увагу, што пацяпленне на нашай планеце і кліматычныя змены з'яўляюцца прычынай не толькі засухі, але бур і ветраломаў, падчас якіх інтэнсіўныя ападкі дажджу хутка сплываюць з палёў.**

— Такая зараз засуха на нашых палях, што калі не выпадуць большыя дажджы, то нічога з пасеваў і кашэння травы не атрымаецца. Месцамі трава павыгарвала. Выпусцілі мы частку нашага мяснога быдла на траву, якое сын стаў разводзіць ад некалькіх гадоў, то толькі праветрываецца на свежым паветры, паколькі няма там чаго есці. Кормім кароў і бычкоў яшчэ сенам, а частку быдла яшчэ ўвогуле не выпускаем на луг. Трава, якую пасеялі на новым месцы, увогуле не ўзышла. Авёс узышоў, але вельмі слаба, а ад начных прымаразкаў пажаўцелі і авёс і астатняе збожжа. У нас яшчэ лясная звярына, у тым ліку і зубры выходзяць з пушчы і нішчаць нам пасевы. Зараз з-за эпідэміі каранавіруса не купляюць ні быдла, ні авечак, і іх зараз не аплачваецца гадаваць. Сённяшні дождж прамачыў глебу толькі на два сантыметры, каб куравы не было на палях, а ніжэй зямля сухая. Усё будзе залежаць ад таго, ці будуць падаць большыя дажджы на працягу даўжэйшага часу, — заявіў жыхар гміны Дубічы-Царкоўныя, які з сынам гаспадарыць на вялікім арэале ў сярэдзіне Белавежскай пушчы.

— Авёс на нашых палях узышоў слаба. Чакаем, што выпадзе дождж і тады ён узыдзе густа і падраўнеецца. Азіміна яшчэ менш адчула засуху, але яе плён будзе залежаць ад таго, ці будуць дажджы. У час мінулагодняй засухі плён збожжа быў невялікі. Аднак найбольш складана было з вырошчваннем травы, якой плён у агульным быў вельмі нізкі. Першы пакос травы даў невялікі плён, а атавы амаль увогуле не было. Пазней амаль зусім не было травы на лузе і кароў мусілі мы падкормліваць сенам, якое сабралі з першага пакосу. Частка нашых гаспадароў хацела прадаць кароў, але цана на іх моцна панізілася, — заявіў мой суразмоўца з Кляшчэлеўскай гміны. Землі там горшай якасці і гаспадары сеюць многа яравога збожжа, а з азіміны найчасцей вырошчваюць жыта. Многа там прыродных лугоў, якія засталіся дзеля гадоўлі кароў.

— У нашай гміне перастала дзейнічаць водная суполка і равы пазарасталі кустамі. У некаторых равах бабры раней з дрэў і голля рабілі застаўкі. Аднак у засушлівы час у равах высахла вада, а пасля трава выгарала на моцным сонцы. Не было дзе пасвіць кароў і некаторыя сяляне прадалі быдла ў мінулым годзе, — заявіў жыхар Кляшчэлеўскай гміны.

— Мы ўжо сеем мала ярыны, паколькі апошнімі гадамі была засуха. Плён ярыны ў час засухі намнога горшы, чым азімага збожжа, якога ўраджай таксама быў меншы. Кукуруза менш баіцца сухога лета, але сёлета вельмі суха ад пачатку вясны і таму ў гэтым годзе можа быць горшы плён і кукурузы, — сказаў жыхар Гайнаўскай гміны, які вырошчвае збожжа.

— У апошніх гадах засыхалі старэйшыя і малодшыя яблыні ў маім садзе і калі сёлета будзе такая засуха, як у мінулых гадах, могуць паўсыхаць астатнія яблыні. Ужо вясной засохлі ў мяне два дрэўцы, а на маладзенькіх яблыньках паявілася цяпер мала пупышак, што можа прадвяшчаць засуху, — заявіў мой суразмоўца з Гайнаўскай гміны.

У апошнія дні паявіліся паведамленні, што ўзровень вады ў Вісле, у Варшаве, панізіўся да каля 45 сантыметраў і так невялікай колькасці вады ў Вісле на зломе красавіка і мая яшчэ не было за перыяд фіксаваных праверак.

— У гэтым годзе так суха, што мы штодзень падліваем пасеяную агародніну і ўжо хіба трэба будзе пачынаць падліваць расліннасць, якая ўпрыгожвае панадворак. Аднак у калодзежы так мала вады, што трэба будзе браць ваду з гміннага водапровада, — сказаў жыхар Гайнаўскай гміны. — Інфармацыі метэаролагаў даюць крыху надзеі, што ў пачатку мая могуць паявіцца ападкі дажджу. Калі б так было, гэтыя дажджы дапамаглі б узысці пасеянай агародніне, ярыне і іншая расліннасць рушыла б расці. Аднак доўгатэрміновы прагноз надвор'я ўжо паказвае на вялікую засуху ў гэтым годзе.

— Я пасеяла агародніну, але цяпер так суха, што мушу штодзень падліваць усё пасеянае, бо не ўзыдзе. Наш сусед таксама прыязджае з Гайнаўкі, каб падліваць пасеянае, — заявіла жыхарка Гайнаўскай гміны.

Зараз складана канчатковая прадбачыць, якімі будуць другая палова вясны і лета ў гэтым годзе. Метэаролагі паведамляюць пра вялікае праўдападабенства яшчэ большай засухі ў гэтым годзе, ад тых з мінулых гадоў. Аднак спаткаўся я таксама з выказваннем назіральніка прыроды з Гайнаўскай гміны, які мяркуе, што лета ў гэтым годзе будзе мокрае і халаднейшае ад мінулагодніх. У пачатку мая таксама прадбачваецца, што ў розных месцах Польшчы могуць быць ападкі дажджу, нават з бурамі. Хаця вада з больш праліўных дажджоў хутка сплывае з палёў і мала яе застаецца ў глебе, такія дажджы маглі б дапамагчы пасеянай нядаўна ярыне і агародніне. Аднак для добрага плёну травы, збожжа і агародніны вырашальным былі б пазнейшыя дажджы. Малочная прадукцыя ў вялікіх гаспадарках цяпер у вялікай ступені абапіраецца на падкормліванні кароў вялікай колькасцю збожжавых канцэнтратаў. Аднак каровы з'ядаюць перш за ўсё мноства сырой травы абкручанай фольгай, якая там ферментуе і ў такім выглядзе моцна папраўляе малочнасць. Нашы старэйшыя гаспадары, якія гадуюць па 2-3 каровы, надалей сушаць сена і падкормліваюць кароў кормам са збожжа, дабаўляючы да яго яшчэ буракі або бульбу. У выпадку засухі можа быць неўраджай перш за ўсё травы, але таксама збожжа і бульбы. Паяўляецца штораз больш меркаванняў спецыялістаў, што цэны харчавання ў магазінах могуць у гэтым годзе моцна павысіцца. Асновай для гэтага ёсць выказванні спецыялістаў наконт засухі, якая па прычыне змены клімату можа тычыцца не толькі Польшчы і Еўропы, але таксама іншых кантынентаў свету.

— Цяпер у нас намнога горшыя гідралагічныя ўмовы, чым былі ў аналагічным перыядзе мінулага года. Мінулагодняя засуха была балючая. Калі ў бліжэйшых тыднях не паявяцца рэгулярныя ападкі дажджу, сёлетняя засуха можа быць яшчэ горшай. Магчыма, што адной з найгоршых у гісторыі нашай краіны, — сказаў гідролаг, член Польскай акадэміі навук прафесар Павел Равінскі.

Сіноптык і гідролаг Павел Станішэўскі з Інстытута метэаралогіі і воднай гаспадаркі заявіў, што сёлетняя засуха можа быць адной з найцяжэйшых за апошнія 50 гадоў. Звярнуў ён увагу на лагодную зіму, адсутнасць снегу і вялікі недахоп дажджу, паколькі толькі ў лютым было вільготна, але ліквідавалі гэтую вільготнасць надзвычай сухія сакавік і красавік. Міністр сельскай гаспадаркі і развіцця вёскі Ян Кшыштаф Арданоўскі ў адмысловым выступленні да жыхароў Польшчы заклікаў ад імя земляробаў эканоміць ваду, якой можа не хапаць для сельскагаспадарчай прадукцыі. Эксперты прапануюць, а некаторыя гаспадары, што займаюцца вырошчваннем збожжа на вялікіх арэалах, уводзяць распрацоўкі, якімі ўжо раней карысталіся раслінаводы ў засушлівых краінах. Гэта тычыцца такой апрацоўкі зямлі, каб як найменш яе перасушваць, і прымянення ўгнаенняў і біятэхналогій, якія дазваляюць даўжэй затрымліваць ваду ў глебе на палях і на лугах. Штораз часцей нашы земляробы прымяняюць таксама прэпараты, якія на кароткі час спрычыняюцца да памяншэння вады ў агародніне і іншай расліннасці і гэтым самым забяспечваюць яе перад адмоўным уздзеяннем начных прымаразкаў. Яны нядаўна паяўляліся ў красавіку, а апошнімі гадамі нават у маі і пасля высокай тэмпературы днём не толькі нішчылі расліннасць, але і дадаткова прычыняліся да перасушвання глебы. Канешне, нашы земляробы, якія абрабляюць палі горшай якасці і могуць разлічваць толькі на невялікі плён збожжа, не ў змозе выдаткоўваць большыя сродкі на дадатковыя дарагія мінеральныя ўгнаенні, біятэхналогіі і прэпараты. Аднак могуць менш апрацоўваць глебу, каб яна менш перасыхала, ці карыстацца натуральнымі ўгнаеннямі і гатункамі збожжа, якога вырошчванне патрабуе менш вады. Вільготнасць натуральна даўжэй затрымліваецца на лугах распаложаных на тарфяніках, якіх многа знаходзіцца, напрыклад, паміж Гародчынам, Ляхамі і Кленікамі. Пра іх стала апошнім часам вядома, калі паўстала ідэя будовы там кар'ера для здабычы торфу, які з'яўляецца вялікім натуральным рэзервуарам вады і вільготнасці. Мясцовыя сяляне пацвярджаюць, што ў засушлівыя гады толькі на тарфяных лугах трава была добрай якасці. Калі ў іншых месцах трава летам засыхала, на тарфяніках можна было касіць чарговы пакос.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Анатоль Парэмбскі
## думаў, чытаў, пісаў, сеяў ...



Анатоль Парэмбскі нарадзіўся ў 1927 годзе ў Страшаве ў гміне Гарадок на Беласточчыне ў каталіцкія Каляды, але дату памянялі, запісалі што 23 снежня. Так як і прыйшлося ўжо яго бацьку крыху памяняць прозвішча, з Парэмскіх іх запісалі Парэмбскімі, бо іначай ім, праваслаўным, не прадалі б зямлю Каліноўскіх у Мастаўлянах. Там і жылі, калі стаў прысылаць Толік свае допісы ў сваю беларускую газету. Тады яшчэ не вершы. А дэбютаваў ён якраз у чэрвеньскі дзень нападу гітлераўскай Нямеччыны на сталінскі Савецкі Саюз. Не ўбачыў таго нумара «Піянера Беларусі». Але ўвесь час натаваў вершы, дзе запісваў свае меркаванні пра лёс беларуса, чалавека, які трымаецца веры і зямлі, якая яго корміць, а над якой пралівае ён пот, слёзы ды кроў, над якой пралятаюць снарады розных заваёўнікаў, але яе, зямлю тую, наш чалавек апрацоўвае ўласным мазалём, углядаючыся ў Космас, гісторыю і душы родных людзей.

Усё жыццё пражыў на Гарадоцкай зямлі — у Страшаве, Мастаўлянах, на Станцыі Валілы. Гаспадар. Працаваў, хаця, калі напала яго лейкемія і стала недамагаць сэрца (заклалі яму на сэрца электракардыястымулятар), не даў бы сам рады дагледзець гаспадарку з жонкай Марыяй. І яна моцна хварэла, хаця малодшая ад яго амаль на 20 гадоў. Добра, калі яшчэ мог у свае дзевяноста хоць пасядзець ля сцяноўкі, пачытаць, і апетыт яму крышку паправіўся. Памятаў:

— Мой бацька шукаў магчымасцей, каб стварыць добрыя ўмовы для жыцця сваёй сям'і. Ажаніўся бацька з удавою, у якой былі тры дачушкі, але ўсе яны памерлі ў бежанстве. Ну, а як бацька ажаніўся, то нажыў з маёй мамай чатырох сыноў — трох маіх братоў. Майму бацьку была нагода купіць гаспадарку ў Мастаўлянах па Кастусю Каліноўскім. У Страшаве гадаваліся мае бацькі і дзяды. І, вось, так мы апынуліся ў недалёкіх Мастаўлянах, на маёмасці Кастуся Каліноўскага. У выніку міжваенных земляробчых рэформ мастаўлянскі маёнтак славутага рэвалюцыянера царскіх часоў распарцалявалі. Зямлю прадалі толькі палякам — перасяленцам з цэнтральных і заходніх рэгіёнаў Польшчы. Выключэннем быў тут Іван Парэмбскі, прапраўдзе Парэмскі, бо гэтак гучыць перароблена на польскі лад чыноўнікамі радавое прозвішча гэтай заможнай і працавітай, патрыятычнай сям'і, якая ў 1928 годзе набыла маёнткавы ўчастак Каліноўскіх. Працавалі заўсёды шчыра і талкова, рук не складалі. Таму і радзіла ім. Гаспадары.

Дэбютаваў 21 чэрвеня 1941 года. Ад часу, калі ўзнік тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва" — ад 1956 года — быў ён яго карэспандэнтам і хранікёрам тутэйшага быцця. Усё жыццё расказваў у вершах пра тутэйшасць — былое-гістарычнае ды цяперашняе, каменціруе яго лірычна, публіцыстычна і жартам. З'яўляўся актыўным членам Літаратурнага згуртавання «Каласы" ў Гарадку, якое свае творы прадстаўляе друкам (у прэсе і альманахах) ды на сцэне. Са зборніка «Хвалі лёсу" творы ахвотна выбірае моладзь гарадоцкіх школ для дэкламацыі, для спеваў. Прыгожа апісваў ён родныя краявіды, чалавечы лёс у гісторыі, даўнейшую і сучасную гісторыю старажытнага горада Хадкевічаў і прападаючых забытых вёсак, якія засталіся ў яго памяці як бурліўшыя жыццём. Не толькі настальгія прамаўляла з твораў Анатоля Парэмбскага. Ён быў выдатным сатырыкам! Вось верш „Выкідайце тэлевізар" стаў вельмі папулярным не толькі сярод моладзі. Класічная форма вершаў, якая даспадобы ўмеламу аўтару, спрычыняецца да таго, што ахвотна выкарыстоўваюць іх тутэйшыя музыкі як словы.

— Вядома, жыццё не складаецца толькі з сонца. Размаітае яно бывае. Бывае яно і зацемненае, калі таго сонца не відна. Таму і тыя воблакі. А промні — так як *дзісь* відна. Сонца свеціць, і чалавек гэтым цешыцца. І так жыццё праходзіць. Жыццё захутка ўцякае. Чалавек не думаў, што столькі будзе жыць, ды якасць прыходзіцца, — смяецца. — Мусі так — колькі каму прыходзіцца, столькі і жыве. Як сын памёр, мне неяк адпала *хэнць* пісання. Не пішацца мне так, як калісь. І жартаўлівы верш часам паяўляецца... Часам... Жыццё падыктуе штосьці цікавейшага, трапнага сказаць ці напісаць...

Беларускі народны паэт з Валілаў-Станцыі — аўтар трох зборнікаў паэзіі „Хвалі лёсу" (2008) і „Мы тут былі і будзям" (2010), „Воблакі і промні" (2014). У яго зборнікі ўключаны творы краязнаўчага, гістарычнага, сатырычнага і лірычнага характару, якія каменціруюць падзеі актуальныя не толькі на найбліжэйшай тэрыторыі.

— Пра што пісаў. Пра жыццё, адным словам, — казаў дзядзька Анатоль. — Пра тое, што я памятаю, што знаю, што *дзісь* ёсць, то ўсё гэта ў гэтай кніжцы можна вычытаць. Ну бо што можа больш чалавек пісаць? Пра тое, што ведае. Пра тое, чаго не знае — не напіша. Дык тое больш-менш так тут унятае.

Сядзелі мы на ляжайцы ў прыгожым і выгадным доме Парэмбскіх па вуліцы Лісяй у Валілах-Станцыі. Юбіляр быў вельмі шчаслівы, што наведалі яго ў юбілей Янка Карповіч і Галена Ляховіч, з адмысловымі падарункамі ад сябе і ўсіх гарадчан. Шчыра паразмаўлялі, паўспаміналі. Успаміналася столькі ўсяго — толькі запісвай. Ці ў вершы, ці ў прозе. Вершам, казаў спадар Анатоль, як дыхаеш — меладычна, на поўныя грудзі. Памятаецца прыгожае, памятаецца і горкае. Найбольш пра роднае. Пра людзей. Пра тое, што не ўсе памятаюць ці не ведаюць. Пра найбліжэйшае і тое што далёка. «Бо ж ці не задумаецца земляроб, падняўшы вочы ў неба, на Сонца, на зоркі ноччу? Для чагосьці ён жа тут жыве, не толькі каб хлеб есці...».

### Захаваць свае прыметы

Зіма пройдзе, прыйдзе лета...
Дзеецца ад векаў гэтак.
Дарастаем і старэем.
Вецер нас кругом абвее,
Болей у вочы, менш да згоды...
Усякія ў нас прыгоды.
Каб сабраць іх — будзе кніжка!
Успомніцца Дзям'ян і Мішка,
І Надзейка Сінявока...
Колькі ран у душы глыбокіх
І ад ворагаў, і блізкіх...
І да сёння ў сэрцы блізны.
Ад маленства аж па старасць,
Не за часта была радасць.
Цыганом малых страшылі,
У школе ў лапу вучняў білі.
Войны бралі татаў дзеткам.
Жалі на чужых палетках.
Дараслі, было нялёгка
Выбіцца ў свет шырокі.
Мовай і культурай можам
Разіць вока у вяльможаў.
Колькі ж пражылі няволяў
І з-за волі, і з няволі.
Акупанты з усіх бокаў.
Каб датрымаць свету кроку,
Прабіваемся як можам.
З бояззю і асцярожна.
За акном шарэе восень
Вецер дзікі як заўсёды
І нагнаў да нас з заходу
Нам не знаны стыль і моду.
І таму, каб быць сабою,
Захаваць свае прыметы,
Цэлым родам заспяваем
„Люблю свой край, старонку гэту!"

### Краіна няволяў

Краіна вяковых няволяў,
А так яе любім чамусь,
Бо тут мае шчасце, нядоля.
Ты родная мне — Беларусь!

Саюзы розных калёраў
Карысці табе не далі.
Вырывалі ў цябе па кавалку
Твае радавітай зямлі.

Ворагі ўсякіх адценняў
Не ўспелі цябе задушыць.
Хочацца сёння мне толькі
Зямлі беларускай служыць.

А продкам сваім непакорным
Удзячны я сэрцам, душой
За сатварэнне ў няволі
Спадчыны мудрай такой

Ад Еўфрасінні Палоцкай,
Ад хрысціянскіх святынь
Да партызанскіх магілаў
Вялікай Айчыннай вайны.

### Свіслач рака

Ліецца Свіслач рака, а над ёй — два масты.
На прыгорку царква,
блішчаць нашы красты.
Тут маёнтачак быў, Каліноўскі ў ім жыў,
Пра мужыцкі дбаў „ніз" і за тое павіс.
Пры адным із мастоў млын прыгожы стаяў,
У ім Міхась працаваў, Гляйзер кабзу збіваў.
Колькі ж ёсць вас, мастоў,
іх відаць, дзе ні глянь,
Тыя што ўспамянуў былі ў Мастаўлян.
Былі, але няма, іх глынула вайна.
Там граніца бяжыць,
нам прыйшлося тужыць,
Каб пабыць у сваіх — нашы думкі на ніц.
Не прайсці ў Каласы, ані да Грыцавіч...
Рэжуць нашу зямлю! За якія грахі?
Калі экснаскалі, калі маналяхі.
Ці ж то Бог прыказаў так з суседзямі жыць?
Ад тытана ўцякаць, а слабога глушыць?

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Ад алкагалізму не пакутуюць... Ім наталяюцца

Уяўляю сабе, што дзе-хто з чытачоў „Нівы", прачытаўшы загаловак, падумае: збрэндзіла бабка на 77-м годзе жыцця — асалоду адчула ва ўжыванні спіртнога...

Насамрэч гаворка пойдзе аб прадстаўніках жывёльнага свету. Агульнавядома, што куры, гусі і іншыя насельнікі вясковых падвор'яў, накляваўшыся ягад, што забрадзілі ў наліўках і кампотах, падаюць, бы падкошаныя. Ачуняўшы, бягуць ізноў да недаедзенага „корму" і з задавальненнем працягваюць трапезу.

Знаёмая бабуля некалі напалохаўшыся, што здохлі ўсе гусі, паспела двух абскубці, пакуль не заўважыла, што малапамалу птаства ачуньвае і, хістаючыся, устае на ногі. Успомніла, што выкінула пад плот „п'яныя" вішні, якія прыйшліся даспадобы крылатым.

Вінаватымі ў спойванні жывёлін у большасці выпадкаў з'яўляюцца, несумненна, людзі. На памяці гісторыя, калі гаспадар-віпівоха заўсёды на сустрэчу з сябрамі браў з сабою дваравога сабаку. Дзеля забавы наліваў віна альбо піва і цюцьку, які неўзабаве стаў алкаголікам.

П'яніцамі з удзелам людзей станавіліся коні, свінні, козы і іншыя хатнія жывёліны. І не толькі хатнія.

Памятаю да драбніц сваю колішнюю паездку ў Індыю. Перад экскурсіяй у Стары Дэлі кіраўнік групы раздаў усім удзельнікам па гронцы бананаў, каб частавалі малпаў, якія там жывуць на волі вялікімі калоніямі. Тыя з экскурсантаў, што не ўтрымаўшыся, з'елі па дарозе фрукты, „прапанавалі" прыматам скуркі, за што атрымалі палкай па галаве.

Мясцовыя жыхары, жартуючы, прыходзяць сюды з півам, каб падражніць даўгахвостых. Выпіўшы глыток-другі хаваюцца паблізу, каб назіраць за паводзінамі мартышак. Тыя, хуценька спусціўшыся на зямлю, з асалодай дапіваюць усё і пачынаюць „разборкі". Оргія працягваецца да тае пары, пакуль, стаміўшыся, не засынаюць на месцы.

Па назіраннях вучоных Тэхаскага ўніверсітэта, афрыканскія малпы знаходзяць пераспелыя фрукты, у якіх пачалося браджэнне, і паядаюць іх у вялікай колькасці. Аказваецца, у гэтых фруктах на той момант утрымліваецца да 5% алкаголю, які перасцерагае арганізм прыматаў ад сардэчных захворванняў.

Самымі непрадказальнымі ў п'янай агоніі з'яўляюцца сланы. „Выпіўку" яны сабе рыхтуюць самі. Зрабіўшы яму, заграбаюць у яе розныя салодкія ападкі, закідваюць лісцем і травой, і чакаюць, пакуль месіва перабродзіць. Наеўшыся „дэсерту", п'янеюць, блудзяць па лесе, буяняць, трубяць, наганяючы страх на мясцовых жыхароў. Былі выпадкі, калі людзі з-за неадэкватных паводзін страчвалі ўсё, ратуючы жыццё.

Недзе прачытала, што каб пазбавіць капусныя грады ад слімакоў, неабходна ў спадачкі наліць піва і паставіць у міжрадкоўях. Напіўшыся, слімакі тонуць у любімым напоі.

Мухі і тараканы любяць віно. Нераўнадушныя да спіртнога восы і пчолы. Сярод птушак самымі вялікімі аматарамі спіртнога з'яўляюцца дразды, але, напіўшыся, яны цверазеюць ужо праз дзве гадзіны.

Што ж датычыцца людзей, то хачу прызнацца, што мяне вельмі ўразіла інфармацыя ў адным з часопісаў аб тым, што вялікім прыхільнікам самага моцнага каньяку (50-градуснага „Дзвіна"), быў Уінстан Чэрчыль. Ва ўзросце 89 год ён падзяліўся сакрэтам свайго даўгалецця: „Ніколі не спазняюся на абед, куру гаванскія сігары і п'ю армянскі каньяк".

**Тамара Лаўранчук**
г. Высокае



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl



з р к а
для дзяцей і моладзі



Фота Г.К.

*Аўтаркі з Міхалова: Алівія Козел і сёстры Марта і Магдаліна Драздоўскія.*

# Рыфмаванкі з Міхалова

Добры занятак — той, які вучыць і дае нам радасць. Вось калі пішам рыфмаванкі, мы не толькі пашыраем свой слоўнік, але і адкрываем тайны і чароўнасць прыроды, прыемныя і цяжкія воблікі жыцця. Найбольш нашых аўтараў вабіць прырода.

Вось Крыстафор паспрабаваў «прачытаць» настрой неба, якое пахне навальніцай. Яго бура абавязкова будзе грознай і прыгожай, пасля якой неба асветліцца вясёлкай — сімвалам надзеі. Артур у сваю чаргу любіць жахлівыя стыхіі, з бураломам. Сёння ў час ізалявасці, калі шукаем бяспечнага сховішча, разумеем значэнне дому. Габрыела аднак прыкмеціла, што нельга сядзець без занятку, бо тады ўсё можа абмінуць нас бокам, пайсці ў іншую старонку. Артур, як крытычны назіральнік свету, разумее, што не ўсё можа атрымацца так, як мы хочам, як мы запланавалі. Як прыклад такога свету сварыць працу гаспадара на зямлі, дзе ўраджай ці здароўе жывёлы гэта вялікая здагадка і доза шчасця. Але ж не заўсёды можам запанаваць над сваімі планамі, хаця цяжка працуем.

Прачытайце і самі нешта напішыце.

## Неба

Сцяг каляровы сёння
развязваецца,
На небе сінім як новы стаіць.
Калі хмары клубяцца,
Мне радасна робіцца.
*Крыстафр Дзеніс*

## Бура

Бура моцная гуляе,
тэлефонныя кабелі зрывае,
дрэвы варочае,
ваўкоў нават напужала.
І дзяцей па хатах паразганяла.
*Артур Банцарэвіч*

## Лёс

Лёс уцякае,
Ніхто не чакае,
Усё новае,
Усё цікавае
Нас чакае.
Лёс нас вядзе,
Новую дарогу паказвае.
*Габрыела Госцік*

## Земляробства

Земляробства гэта не гульня,
Гэта цяжкая праца,
Гэта выклік.
Збор ураджаю
не заўсёды добры,
Звяры не заўсёды здаровыя...
Цяжка на гаспадарцы рабіць...
*Артур Банцарэвіч*



Фота Г.К.

# Буслава Дзялянка

## (беларуская народная легенда)

Ёсць у вёсцы Жылін Брод такое «птушынае» ўрочышча Буслава Дзялянка. А чаму так завуць — ніхто не ведае. Буслоў там даўно ніхто не бачыў, дык адкуль такая назва?

Святло на гэту загадку кідае легенда.

Даўным-даўно, на месцы дзе сёння Жылін Брод, стаяў стары лес. Пачалі яго пілаваць, карчаваць карэнне. Дайшла чарга да ясеня. А на тым ясені чорны бусел гняздо звіў. Не захацелі людзі ссякаць дрэва. Яны верылі, што гэта накліча на іх сялібы пажар. Так што яны ўсё вырубілі, адзін толькі ясень астаўся. Бусел, калі пачуў працу пільшчыкаў, адляцеў у больш дзікае месца і ўжо туды не вярнуўся. Дрэва таксама ўжо няма. Ад пня толькі пасынкі ідуць. А месца далей называецца Буслава Дзялянка.

Вось як дзякуючы назве ўрочышча людзі прыгадалі «дзікае» мінулае сваёй вёскі.

*(Паводле легенды запісанай у 1980-х гадах на Случчынне.)*

гак

УВАГА КОНКУРС! № 19-20

**На ўсіх сцяблінках тонкіх
вісяць званочкі-гронкі,
духмяныя, серабрыстыя,
нібы расінкі чыстыя.**
Л.....

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 16 мая 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 15-2020: дрэва. Узнагароды, наклейкі з беларускім алфавітам на клавіятуру камп'ютара, выйгралі Пауліна Снарская і Эвеліна Максімюк. Віншуем!

# Міфы
## старажытных беларусаў


Фота www.belsat.eu

**Ярыла** — ад яго прыхільнасці залежаў ураджай у полі і сіла ды адвага ў чалавека. Ярылу ўяўлялі як маладога, прыгожага юнака ў белым плашчы, з вянком кветак на галаве.

Ён раз'язджаў па свеце на белым кані, трымаючы ў жмені букет аржаных каласоў. Нашы продкі верылі, што Ярыла адкрывае вароты неба якраз на Юр'я. З яго прыездам пачынаецца сапраўдная вясна. У гэты дзень якраз выпускалі ўпершыню жывёлу ў поле.

Яшчэ ў дахрысціянскія часы напярэдадні свята спраўлялі рытуалы, каб заклікаць міфічнага юнака на зямлю. Абрад напамінаў каларытнае шэсце, дзе прамаўляла краса, чысціня і надзея на ўраджай. Як не цікава, абрад у гонар Ярылы спраўлялі дзяўчаты. Яны апраналі адну сяброўку ў белую прасціну, упрыгожвалі галаву вянком з палявых кветак, саджалі на белага каня і вадзілі па вёсцы і палях. За гэта ім дарылі каравай і яйкі.

Сёння шмат старажытных павер'яў у гонар Ярылы пертрансфармаваліся ў Юр'еўскія абрады. Гэтую царкоўна-народную традыцыю ажыццяўляе Музей Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах у рамках Фестывалю «Там па маёвай расе». Няма прыгажэйшай магічнай прыгоды як спевы і гульні ў час адраджаючайся пад птушыныя галасы травеньскай зелені.

Сёння ў час ізаляванасці з прычыны эпідэміі каранавіруса абрады Студзіводскага музея можна паглядзець у сацыяльных сетках. Можна таксама прысвяціць ім віртуальны ўрок беларускай мовы.

*(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алесі Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)*

**(гак)**

Размалюйце!



*Станіслаў Шушкевіч*

## Смаржок

З моху выбіўся смаржок,
Пахіснуўшыся набок,
Ён глядзеў кудысьці ўбок.
Вось крутнулася вавёрка
На сасонцы ля пагорка,
Лёгкі хвосцік, нібы пёрка:
— Што за грыб? Ён малады,
А маршчыны ў тры рады,
І гарбаты і худы.
Тупнуў дрозд, задраўшы хвост:
— Невялікі грыб на рост,
Мае ж ён вялікі кошт.
Ты вавёрачка не смейся,
Сядзь ля грыба і пагрэйся...-
Сам на цёплы мох усеўся:
— Не такі ўжо грыб бядняк,
Шмат маршчынак, — гэта так,
Дык цудоўны ён на смак.

## Польска-беларуская крыжаванка № 19-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15-2020:**

Слава, пяро, вада, мох, блін, бліск, стыліст, акт, пан, кругі, кошт. Сук, спорт, лях, благі, воблік, ліст, віст, банк, патранат.

Узнагароды, беларускія наклейкі на камп'ютарную клавіятуру, выйгралі **Кацярына Каролька, Юля Парфянюк, Адам Ручка.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Jak | Wtorek | | Autobus / Tam | | | | | |
| | Auto | | | | | Brutto | | Kary | |
| Autor | | | | | | Ułan / Oka | | | |
| Sukces | Tom | | | | Bór / Znak | | | | |
| | | | | Bierz / Sam | | | Prawo | | Abak / Żar |
| | | | | | Krzyż | | | | |
| | Żagiel | | | | Monstrum | | | | |
| | | | Rak | | | | | | |

# Чаму правалілася?

**Якой дакладна была эпоха ПНР з боку яе ўнутраных структур — ведалі толькі кіраўнічыя яе дзеячы. Гэтыя людзі адышлі ўжо з жыцця. З адным з іх быў я ў прыяцельскіх адносінах. У маім прыватным архіве засталося многа запісаных на магнітафонную плёнку ўспамінаў пакойнага Яна Кубаеўскага з Орлі (1932-2003). Быў ён цягам трох тэрмінаў — перад роспускам ПАРП — гмінным сакратаром партыі. Раней трыццаць гадоў правёў у Кракаве, дзе шаснаццаць гадоў працаваў у крыміналістыцы, а таксама на іншых пасадах. У 1950-х гадах працаваў інструктарам у арлянскім доме культуры, арганізаваў калектыў „Арляне — спевакі і мандалісты" і выступаў у ім салістам і ў дуэце з Верай Валкавыцкай, пазнейшай журналісткай „Нівы". Успамінае сямейнае жыццё ў Орлі пры санацыі і пасля вяртання з Кракава, сваю партыйную работу.**



## Дзяцінства

Пры санацыі ўся мая сям'я — мама Анна, тата Аляксандр і старэйшы за мяне на тры гады брат Аляксандр жылі ў Орлі і абраблялі зямлю. Была ў нас старая драўляная хата ды стадола і хлеў, у якім трымалі дабытак: каня, карову, свінню, курэй і трусоў. Мелі мы 3,70 гектара зямлі, значыць, як нас акрэслілі, былі мы малазямельнымі сялянамі.

Калі бацькі выходзілі ў поле, я, ва ўзросце васьмі гадоў, мусіў наскрэбці вядро бульбы, папрыбіраць, накарміць дабытак, дапільнаваць дом ад цыганоў і пабіць мух, якіх процьма стварала вялікія гігіенічныя праблемы і звычайна дакучала. Жылося нам вельмі цяжка.

Не хапала хлеба. Мама, каб хлеба было больш, дадавала ў муку вараную бульбу, якая прычынялася да выдатнага ўзбуйнення хлеба, але толькі тады, калі бульбы тае не было замнога. Аднак здаралася маме перастарацца з бульбай і выпечаны хлеб абсядаў у закалец. Яшчэ сёння прыгадваю тыя хвіліны, калі я ванітаваў пасля такога хлеба. Муку для хлеба малоў я разам з братам у жорнах. Для дзяцей была гэта цяжкая праца.

Каб дарабіць на жыццё бацька зарабляў фурманкай у арлянскім жыдоў. Вазіў яйкі і курэй на рынак у Бельск або Гайнаўку. Выязджаў увечар або ўначы, а вяртаўся на другі дзень пасля поўдня.

На каляду бацька купляў аднаго селядца. І каб мы, хлопцы, не ўкусілі яго перад куццёю, ён цвіком прыбіваў яго за хвост да столі. З селядцовага лёку мама рыхтавала смачную ежу, дабаўляючы муку, цыбулю ды іншыя прысмакі. Часам пад свята тата купляў цукеркі, а пра шакалад і згадкі не было.

Маючы восем гадоў я ўжо жаў збожжа сярпом. А ў дванаццаць гадоў я ўжо зарабляў — араў зямлю ваенным удовам. Будучы дзіцём я таксама малаціў на два-тры цапы.

Нягледзячы на такую цяжкую працу цэлай сям'і, не хапала нам на жыццё, не гаворачы ўжо пра падаткі, якія былі даволі празмерныя да нашых прыходаў. Таму часта да нас заглядаў секвестратар, які, аднак, не меў чаго забіраць.

Жывучы ў галечы, я неаднойчы задумваўся, чаму мы, нягледзячы на нашу катаржную працу, жывем бедна і гаротна, калі іншыя, якія працавалі менш за нас, маглі быць багатымі, шчаслівымі, сытымі, адзетымі і абутымі паводле свайго густу.

Я бачыў тую несправядлівасць і зайздросціў хлопцам, якія маглі купляць сабе свежыя булачкі, цукеркі, мець па некалькі вопратак і абутку, а нават ровар і канькі. Быў я, аднак, яшчэ замалады, каб зразумець істоту таго грамадскага і матэрыяльнага расслаення. У такіх цяжкіх абставінах застала мяне Другая сусветная вайна.

## Першыя пасляваенныя гады

Узяліся мы за адбудову з ваенных папялішчаў. Была заснавана арганізацыя «Służba Polsce», далі нам мундзіры, лапаты і амаль штодзённа працавалі мы пры будове дамоў, дарог, мастоў. Паўсталі таксама Саюз польскай моладзі і Саюз вясковай моладзі, у якія спантанна, згуртавана запісвалася моладзь. Было ў тым нешта новае, прыцягальнае, важнае; лічыліся з намі. Запрашалі нас на агульнавясковыя сходы, у прэзідыум, пыталі пра наша меркаванне, назначалі моладзевыя задачы. Пад пагрозай аштрафавання прымушалі нас да навукі. Тлумачылі, што веды гэта будучыня, што Народная Польшча патрабуе вучаных грамадзян, мудрых, адважных патрыётаў. Усведамлялі нас, што найбольш надзейным і найвярнейшым прыяцелем Польшчы з'яўляецца Савецкі Саюз, які нас вызваліў ад гітлераўскай акупацыі, якога салдаты пралівалі за нас крoў і на якіх можам разлічваць у выпадку пагрозы міру. Не трэба было нас вельмі пераконваць, бо на свае вочы бачылі колькі савецкіх байцоў загінула пры вызваленні нашай Орлі. Ды, дарэчы, чаму ж іх не любіць? Былі яны ў адносінах да нас вельмі мілыя, ветлівыя, паслужлівыя.

## Навука ў гайнаўскай і бельскай школах

Бацькі паслалі мяне ў Механічны тэхнікум у Гайнаўцы. Даязджаў я таварным цягнікоm. Часам бывала, што бег па рэйках дваццаць кіламетраў, бо не ўяўляў сабе, што можна спазніцца ці адсутнічаць на ўроках.

Пасля года навукі выбралі мяне старшынёй школьнай арганізацыі ЗМП і Таварыства польска-савецкай дружбы. Дагэтуль не ведаю чаму менавіта мяне выбралі старшынёй тых арганізацый. Мабыць таму, што быў я моцным, добра збудаваным, адважным і памяркоўна дзёрзкім юнаком. Напэўна не выбралі мяне па палітычных ці ідэалагічных перакананнях, бо не было яшчэ калі тых перакананняў набраць. Не ведаў, што такое сацыялізм, марксізм-ленінізм, што капіталізм, што добрае, а што злое і чаму. Прадчуваў толькі, што тое новае лепшае ад старога, калі пры санацыі цярпеў голад, холад і пагарду. Пекла гітлераўскай акупацыі дапоўніла чару горычы.

Працаваў грамадска, вёў сходы, прымаў удзел у пасяджэннях педсаветаў, камісій па размеркаванні стыпендый. І зноў пачаліся пагрозы — раней перапынілі мяне вечарам на вуліцы — ананімы, з'едлівасці, празвыкі. А ў свята 22 ліпеня, калі я быў у Орлі, нехта кінуў каменем у акно майго пансіёна. Гаспадыня загадала мне пакінуць пансіён, бо і ёй пагражалі. Паклікалі мяне на пастарунак міліцыі і сказалі змяніць школу, што мушу перабрацца ў Бельск-Падляшскі. Гэта быў мой першы сур'ёзны ўрок жыцця. Не мог я зразумець, чаму мяне, за яшчэ смаркатыя погляды, жыццёвую няспеласць, часта наўнасць, хацелі пазбавіць жыцця.

У Белліцэі ў Бельску прынялі мяне ў склад праўлення ЗМП. Тут моладзевая арганізацыя была моцная, выразна левага ўхілу, мабыць таму, што значная частка вучняў была беларускай нацыянальнасці, чым адчувалі больш сантымент да ўсходнеславянскіх народаў. Некаторыя мелі там сямейнікаў, перапісваліся, наведваліся, спявалі прыгожыя рамантычныя песні.

Новая ўлада дала мне дармовую кватэру, дазволіла бясплатную навуку. Дала таксама стыпендыю, безвазротную дапамогу, пачуццё вартасці і годнасці, стварыла магчымасць саўдзелу ў кіраванні дзяржавай.

У бельскай школе ўпершыню браў удзел у ідэалагічным навучанні; вучылі, што такое марксізм-ленінізм, сацыялізм, капіталізм, грамадская справядлівасць, дружба між народамі, справядлівыя і несправядлівыя войны, фашызм, рэлігія.

Прынцыпова кожны дырэктар мусіў быць членам партыі, але наш Яраслаў Касцыцэвіч быў выключэннем. Прабавалі яго ўсведамляць, але безвынікова. Паходзіў ён з духоўнай сям'і, балазе маглі яго па гэтай прычыне зволніць з пасады дырэктара школы. Чаму адносіліся да яго так талерантна? За ягоную любоў да школы, да вучняў, за патрыятызм, выдатныя педагагічныя здольнасці, клопат пра аўтарытэт школы, пра яе рэпутацыю, культуру і высокі ўзровень навучання — найбольш выпускнікоў паступала на вышэйшыя штудыі. Перасталі яго намаўляць у партыю. Дзякуючы яго захадам быў арганізаваны другі ў той час у Польшчы школьны духавы аркестр. Кожную нядзелю выязджалі з песнямі і мастацкай часткай у вёскі. Прымалі нас вельмі сардэчна, частавалі малаком, вясковай каўбасой, садавінай, часам вінoм уласнага вырабу.

Не раз былі мы адзіным сродкам масавай інфармацыі, паведамляючы, што дзеецца ў Польшчы; тады выходзіла толькі адна газета „Rzeczpospolita" — на жоўтай паперы, а радыё пачыналі толькі ўводзіць. Тыя акцыі называлі „Miasto wsi". Такія паездкі цэментавалі нашу дружбу, прымушалі да дадатковай навукі — бо сяляне ставілі складаныя пытанні, — дазвалялі бліжэй пазнаёміцца з вясковымі праблемамі, усведамляць іх што новая ўлада клапоціцца пра іх, пра развіццё іхняй культуры і асветы. Больш складаныя пытанні, праблемы вёскі, перадавалі ў павятовы камітэт партыі, які рыхтаваў адказы і шматразова афармляў адміністрацыйныя справы ў гміне ці ў павеце.

У 1951 годзе „Gazeta Białostocka" аб'явіла конкурс на фельетон месяца. У школе арыфметыка давалася мне туга, але пісаць я вельмі любіў. Прыняў я ўдзел у конкурсе. Мой фельетон пра школьны спорт заняў першае месца. Конкурс доўжыўся год і лаўрэаты за паасобныя месяцы былі запрошаны на двухтыднёвыя курсы карэспандэнтаў у Беластоку. На журналісцкіх занятках вучыліся мы збіраць матэрыялы, апрацоўваць іх, знаёміліся з працай друкарні.

Курсы адбываліся 1-14 ліпеня 1952 года. Начавалі мы ў гатэлі ці ў інтэрнаце, гэтага не памятаю, але сталаваліся ў рэстаране „Людова"; цяпер „Асторыя". Заняткі адбываліся на горадзе, збіралі мы матэрыялы і пісалі артыкулы. І нас ацэньвалі. Курсы з ліку дванаццаці ўдзельнікаў пазітыўна закончылі толькі тры асобы, у іх ліку і я. Атрымалі мы магчымасць працаваць уласнымі карэспандэнтамі газеты. Астатнія таксама маглі супрацоўнічаць з „Газетай Беластоцкай", але з той розніцай, што мы — тры асобы — сталі пастаяннымі карэспандэнтамі з правам уступу на прадпрыемствы. З таго часу штодзённа я чытаў газету, шукаючы ў ёй сваіх артыкулаў. Цікавіла мяне, наколькі былі яны скарочаны і што ў іх памянялі.

Памятаю, што ў 1950-х гадах галоўным рэдактарам быў Стэфан Паўлята; ён закончыў журналісцкія курсы ў Маскве. Сакратаром рэдакцыі быў Уладзімір Хацей, а лакальнымі справамі займаўся Генрык Кашковяк. На захаваным у мяне пасведчанні заканчэння курсаў падпісаны М. Матэйчык — загадчык аддзела лістоў і інтэрвенцый.

Праца мясцовага карэспандэнта ўмацавала маю зацікаўленасць палітыкай. Прымаў актыўны ўдзел у зменах, якія адбываліся ў Польшчы, дапамагаў ствараць новае жыццё, прапагандуючы дэмакратычныя вартасці народнай улады, адначасна крытыкуючы зло, бюракратыю, кумаўство, набіраючае разгону хабарніцтва, грамадскую абыякавасць, парушэнне законаў дзяржаўнымі чыноўнікамі.

## У Кракаве

Калі я ўжо стаў паважаным інспектарам крымінальнай службы, узяўся за самаадукацыю. Чытаў навуковыя артыкулы на тэму крымінальнага вопыту ў іншых краінах. Быў гэта час, калі на пасады часта прызначалі пасрэдных людзей, малаадукаваных, але з адпаведным класавым паходжаннем і маючымі доступ да палітычных улад. Тры гады намаўлялі мяне ў партыю, вабілі павышэннем. Нарэшце згадзіўся. Шчыра кажучы — у следчых органах амаль усе мусілі належаць да партыі. Была гэта ідэала-

гічная вертыкаль — беспартыйныя не маглі разлічваць на павышэнне.

Пасля года выбралі мяне сакратаром падставовай партыйнай арганізацыі, якая налічвала каля ста членаў на сто пяцьдзясят працаўнікоў. Быў я ўжо шышкай. У той час кожны чалавек, нават просты, бедны, мог знайсці ў партыі зразуменне, падтрымку і абарону перад бюракратыяй, хабарніцтвам...

Шанавалі мяне, бо я быў упарты і катэгарычны, але адначасна начальства мела да мяне прэтэнзіі, што занадта бараню інтарэсы працаўнікоў. Тыя начальнікі — з грамадскага павышэння — часта інтэлектуальным узроўнем былі ніжэй сваіх падуладных.

Кожная паліцыя ў значнай меры абапіраецца на добрай агентуры. У тадышні час вербавалі ў тры прыёмы: з патрыятычных матываў, за грошы і з дапамогай шантажу. Дзве апошнія катэгорыі агентаў дзейнічаюць з нізкіх матываў і аб іх не хачу казаць. Але задумваўся часта над тымі супрацоўнікамі, якія дапамагалі з патрэбы сэрца, з пераканання і абураліся, калі прапанаваў ім плацеж. Колькі такіх патрыётаў знойдзем цяпер?

Праўда, і ў ПНР было калісь многа несправядлівасці. Кумаўство, хабарніцтва, афармленне спраў па блаце, здабыванне пасад пры гарэлцы. Трэба было мець добры блат у сакратароў партыі, кіраўнікоў адміністрацыйных адзінак, каб атрымаць павышэнне на важную пасаду. Крыва глядзелі на тых, якія асмельваліся крытыкаваць свайго начальніка. Жыццё станавілася тады цяжкім, не было магчымасці прафесійнага павышэння, не гаворачы ўжо пра тое, што пры першай нагодзе кідалі такой асобе калоду пад нагу. Я асабіста перажыў многа прыніжэнняў з боку маіх начальнікаў. Не давалі мне падбавак, павышэнняў, часта неабгрунтавана кантралявалі маю працу, чапляліся. Праз тыя прычэпкі папсавалася мне здароўе. Урэшце мусіў адысці са службы дысцыплінарна, звінавацілі мяне на аснове сфабрыкаваных доказаў.

У сваім жыцці неаднойчы апынаўся я ў сітуацыях, калі сумленнасць не аплачвалася, не ўлічваліся веды, кампетэнцыі, падтрымка падначаленых, толькі знаёмствы, пратэкцыя і каньяк. А я не ўмеў падлізвацца начальству; хіба мяне так мама выхавала. Пастаянна верыў у моц справядлівасці., якую перадала нам марксісцкая навука. У творах Леніна чытаў, што член партыі павінен быць сумленны, праўдзівы, справядлівы, працавіты, аб'ектыўны, крытычны і самакрытычны, а партыйная крытыка гэта найважнейшая зброя партыі, якую трэба берагчы.

Былі хвіліны, калі пачынаў я задумвацца пра вартасці сацыялістычнага строю, пра калізію тэорыі з практыкай, пра прыгожую візію камунізму і бязлітасную рэчаіснасць. Калі, аднак, параўноўваў сваё жыццё пры санацыйнай Польшчы, у акупацыю, з жыццём у народнай Польшчы, схіляўся да апошняй.

Некаторыя партыйныя правадыры былі перакананы, што ўлада дадзена ім навекі і ўжо нічога добрага не трэба рабіць, каб утрымаць яе да канца жыцця. Станавіліся раптам беспамылковымі, усёведнымі, ганарыстымі і недаступнымі, не цярпелі ніякай крытыкі іхніх рашэнняў. Такі быў І сакратар ВК ПАРП у Беластоку. Гаварыў ён: „Пленум гэта я. Сацыялістычная дэмакратыя гэта не воля народа, толькі мая воля". Ніякія аргументы яго не пераконвалі. Ён упарта і прымітыўна тлумачыў, напрыклад, што пры назначэнні на нейкую кіраўнічую пасаду найважнейшая ягоная рэкамендацыя. Каб да яго даступіцца ў нейкай прыватнай справе, трэба было чакаць два тыдні або і больш.

Але, напрыклад, ягоны намеснік, доктар Мікалай Казак быў вельмі добрым чалавекам — адукаваны, мудры, людскі, непасрэдны, сціплы, высокакультурны. Ставілі яго часта за прыклад для пераймання. Мы лічылі, што менавіта Казак паводзіць сябе як сапраўдны камуніст, нажыва ўзяты з марксісцкай літаратуры.



■ Ганаровая трыбуна перад Гміннай управай у Орлі 1 мая 1980 года. Злева направа: начальнік гміны Мікола Зіневіч, дырэктар школы Анатоль Мартыновіч, у берэце армоўца ўдзельнік баёў пад Монтэ-Казіна Сяргей Кубаеўскі, прамаўляе Ян Кубаеўскі, актывістка ПАРП Кантышаў, настаўнік фізкультуры Ежы Сахарэвіч, NN, камендант міліцыі Сакалоўскі

Пражываючы трыццаць гадоў у Кракаве, займаючы розныя кіраўнічыя пасады, мусіў завяршыць Вечаровы ўніверсітэт марксізму-ленінізму. Гэта быў прынцып — кожны кіраўнік павінен быў прайсці гэтае вучэнне. Дарэчы, не было яно благое, бо апрача чыста ідэалагічных прадметаў былі лекцыі па сацыялогіі, псіхалогіі, гісторыі, міжнародных адносінах, геаграфіі, эканоміі, якія вялі вядомыя прафесары. Добра было знаёміцца з тымі ведамі і падыскутаваць з выкладчыкам і з іншымі курсантамі, паспрачацца, пасварыцца. Станоўчым фактарам была тут магчымасць мець сваё меркаванне, часта іншае, чым пазіцыя выкладчыка, а нават партыі і ўрада. І ніхто нікому не прычыняў па гэтай прычыне ніякіх непрыемнасцей, не праследавалі яго пасля за тое, не даносілі ў СБ. Можна сказаць, што было гэта форум свабоднай палітычнай, філасофскай ці эканамічнай думкі.

## Пасля вяртання ў Орлю

Цягам шасці гадоў змагаўся я ў няроўнай барацьбе з сакратаром ВК ПАРП і ягонай сямейнай хеўрай толькі таму, што з'езд дэлегатаў вырашыў, што гмінным сакратаром у Орлі буду я, а не яго сваяк. Тройчы сакратар ВК не даваў мне рэкамендацыі на гміннага сакратара і тройчы людзі пераважнай большасцю галасоў дэлегатаў на з'езд выбіралі мяне на гэтую пасаду. Нічога не памагалі тлумачэнні, што сацыялістычная дэмакратыя гэта народная ўлада, улада большасці над меншасцю. Сакратар казаў мне, што дрэнна разумею дэмакратыю, бо дэмакратыя гэта ён, і большасць гэта ён. І дакучалі мне, далі вымову за балатаванне на сакратара без рэкамендацыі, насылалі праверку за праверкай. Спынілі мне ўсе павышэнні, не падбаўлялі заробку, калі ўсім іншым дабаўлялі. Фабрыкавалі супраць мяне ананімы, дакучалі кантралёрам за тое, што праверкі давалі станоўчыя вынікі. Мэтай гэтага цкавання было псіхічнае знішчэнне мяне, каб сам падаў у адстаўку.

Ад кары вымовы адклікаўся я да Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ПАРП і там знайшоў я зразуменне і выйграў з сакратаром ВК ПАРП. Памятаю, што старшынёй камісіі быў генеральны пракурор Жыта, які заявіў: „Пралістаў я два тамы актаў супраць вас і не знайшоў ніводнага канкрэтнага закіду абгрунтоўваючага вымову. Захапляюся вамі, што цягам стольках гадоў няроўнага змагання вы выйгралі справу аж з сакратаром ВК. Перапрашаю вас за ўчыненыя вам крыўды...".

Пасля таго, што я дасведчыў, меў я справядлівыя асновы зненавідзець тадышні строй і яго палітычных дзеячаў. Але так не сталася, бо ведаю, што такія самыя людзі знойдуцца ў кожнай сістэме, у кожнай палітычнай групоўцы і партыі.

Мяркую, што ў ПНР не было аж так дрэнна, што многія справы, напрыклад, датычныя пакрыўджаных і непрактычных людзей, афармляліся лепш. Былі таксама і дрэнныя з'явы — кумаўство, падкупніцтва, абыякавыя адносіны да людской крыўды. У канфрантацыі датычнай вырашэння людскіх спраў пануючая ў ПНР сістэма велічна перамагае цяперашнюю. Маю на гэта не соткі, а тысячы прыкладаў са свайго жыцця.

Калі ў 1989 годзе наступіла змена палітычнага парадку, меў я туман у галаве. Ставіў я сабе пытанне: Як гэта сталася, што правалілася, як бы не было, магутная сацыялістычная сістэма? Ці можа сапраўды тая сістэма была такая дрэнная, несправядлівая, негуманная? — як гэта падаюць сродкі масавай інфармацыі. Ці сапраўды не мела нічога станоўчага, была злачынай сістэмай, а мы, яе прыхільнікі — злачынцамі? Ці былі мы такімі лакеямі Савецкага Саюза без гонару незалежнага народа? А генерал Ярузельскі быў таксама злачынцам, здраднікам, катам польскага народа, а Пілсудскі ці Кукліньскі народнымі героямі? Ці сакратар партыі быў нягоднікам, а пробашч святым непагрэшным ідэалам? Чаму хочам люстраваць агентаў СБ ці УБ, што дзейнічалі ў карысць СССР ці ПНР, а ахвотна бачым агентаў працуючых для ЗША, Германіі і т.п., як, напрыклад, Кукліньскі? Чаму не кранаем агентаў з асяроддзя духавенства? (А было іх многа.) Падобныя пытанні можна множыць бясконца.

Звычайныя людзі не лічылі дрэнным грамадскага строю ПНР, а тым больш злачынным (пацвярджаюць гэта вынікі розных апытанняў на гэты конт). Значная большасць нас была ім задаволена і цёпла ўспамінае той час, калі можна было спакойна хадзіць па вуліцах, лечыцца, карыстацца здабыткамі культуры, не апасацца, што не стане працы.

Прыгляньмася цяпер крыху, як выглядала „злачыннасць ПАРП" у маёй Арлянскай гміне. Па ініцыятыве Гміннага камітэта ПАРП пабудаваны новыя асфальтавыя дарогі (быў брук), тратуары (былі панямецкія жвіровыя), новую школу з 16 класнымі заламі і гімнастычнай залай, змадэрнізаваны гарадскі парк, была распачата будова новай амбулаторыі (калі б не змена грамадскага строю ў 1989 годзе яе завяршылі б), часткова адрамантавалі гістарычную сінагогу, апрацавалі дакументацыю для пабудовы керамічнай фабрыкі, якая дала б магчымасць уладкаваць на працу ўсіх ахвотных з цэлай гміны, планавалася пабудова вадаёма для адпачынковых мэт, спартыўнай байніцы, спартыўнай пляцоўкі, правялі водаправод у дамы, тэлефоны — у тым ліку бясплатна пенсіянерам. Усе гэтыя інвестыцыі ўзніклі дзякуючы ініцыятыве ПАРП, якая ўключыла іх у сваю праграму, дапамагала адміністрацыі ў афармленні тэхнічна-эканамічнай дакументацыі ды занясенні тых дзеянняў у бюджэтныя планы.

Партыя дапамагала таксама ў афармленні спраў на ваяводскім і цэнтральным узроўнях, прасоўвала іх на старонках прэсы, у радыё і тэлебачанні, наглядала за сістэматычнасцю і тэрміновасцю іх выканання, на пасяджэннях экзекутывы разлічвала адказных за выкананне інвестыцыі кіраўнікоў, арганізавала грамадскія пачыны дзеля дапамогі ў выкананні паасобных задач.

Складаная была праца гміннага сакратара партыі, асабліва тады, калі некаторыя начальнікі мелі прэтэнзіі да інвестыцыйных дзеянняў партыйных камітэтаў, паясняючы, што задачай партыі з'яўляецца галоўным чынам распаўсюджванне ідэалогіі і сацыялістычнай прапаганды, а не ініцыяванне інвестыцый. Такіх бюракратызаваных „партыйных чыноўнікаў" было многа. Трэба было не раз змагацца з начальствам і ўсім апаратам мясцовай адміністрацыі, якая неахвотна прымала для рэалізацыі сур'ёзныя інвестыцыйныя задачы. Напрыклад, наш начальнік гміны часта паўтараў: „Сакратар, навошта вы займаецеся інвестыцыямі? Гуз сабе на лоб шукаеце? Займіцеся бюракратыяй, пішыце планы, справаздачы, якіх верагоднасці не ўдасца праверыць. А ад інвестыцый прэч!"

І калі камітэт партыі рабіў не так, як падказваў начальнік, то паўставаў канфлікт з загадчыкам адміністрацыі, што сур'ёзна ўскладняла працу. Аднак у такіх абставінах падтрымка грамадскага меркавання давала найбольш задавальнення. Відочнае гэта было асабліва ў час выбараў на чарговы тэрмін, калі камітэт і яго сакратар атрымлівалі прыгнятаючую падтрымку галасуючых. Здаралася, што выбіралі тых асоб, якія не мелі рэкамендацыі сваіх начальнікаў. Асабліва ў апошніх гадах ПНР такіх сакратароў было штораз больш. Бачылі яны хібы сваіх шэфаў і імкнуліся рэфармаваць партыю. Змагаліся з бюракратыяй, паперамагіяй.

Аднак крытыкуючых часта балюча каралі. Бо ж нельга было праяўляць уласную ініцыятыву, трэба было толькі выконваць указанні ВК ПАРП. І гэта быў абсурд. Некаторыя начальнікі думалі, што будуць пры ўладзе вечна. Пераважна былі гэта начальнікі не з выбару, але з назначэння або з выбарчай маніпуляцыі, з блату ў вярхах, падмацаванага часта алкаголем і падарункамі.

Тыя ўсе, што паходзілі з грамадскага выбару, адзначаліся багатымі ведамі. Мелі пераважна вышэйшую адукацыю, былі аб'ектыўнымі, самакрытычнымі і адважнымі. У канцы ў ПАРП сталі сур'ёзна прыслухоўвацца нізавым меркаванням. Прымалі многа скарг, крытычных заўваг, стараліся дапамагаць грамадзянам у іх складаных праблемах.

Грамадзяне ведалі, што ў партыі можна знайсці мудрую, бясплатную і канкрэтную дапамогу. Большасць тых людзей са слязінкай у воку ўспамінае час „злачыннай камуны".

Запіс і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**
Размова запісана ў 2000 годзе.

Пастскрыптум: Ян Кубаеўскі памёр 2 студзеня 2003 года ў гайнаўскім шпіталі. Пражыў 70 гадоў, з якіх больш за палову правёў у Орлі, якой быў вельмі адданы. Пахавіны, на якіх і я прысутнічаў, былі сціплыя, так як і ён сам у жыцці. Хаця цягам многіх гадоў працаваў у гмінным кіраўніцтве — быў першым сакратаром партыі — у апошнюю дарогу, на арлянскія могілкі, не праводзіў яго ніхто з улад, ні з колішніх таварышаў.

# Пчолы,
## нашы карміцелькі (1)

**"** Навукоўцы з усяго свету б'юць на трывогу аб шырокай і масавай гібелі пчол. Вангелія Пандэва-Дзімітрова з Балгарыі казала: **«Спачатку вымруць пчолы, потым людзі»**.


Фота Адама Паўлоўскага

Калі ўлічыць той факт, што Баба Ванга папярэджвала чалавецтва аб тым, што масавая гібель пчол прывядзе людзей да мяжы вымірання, то цяперашнія з'явы набываюць вельмі прарочае адценне. Па паведамленнях СМІ, балгарская празорлівіца Ванга абвясціла ў адным са сваіх прароцтваў, што аднойчы Зямля будзе ў вялікай небяспецы.

Знішчэнне планеты, а разам з гэтым і ўсяго чалавецтва, пачнецца ад масавага знікнення насякомых, у прыватнасці пчол. На самой справе прагноз Вангі цяпер мае вельмі рэальную перспектыву.

Гэта яшчэ больш актуальна, таму што, паводле Вангі, голад, войны і эпідэміі пачнуцца са смерці насякомых на нашай планеце, што ў канчатковым выніку прывядзе да поўнага знікнення ўсяго жыцця.

Пчала. Адна з самых «занятых» жывёл. Яна не толькі збірае пылок і вырабляе мёд, але і з'яўляецца боскім пасланцом, ажыўленым маланкай і нават... выпрабаваннем на цнатлівасць.

Народная мудрасць кажа, што пчала нясе навіну пра ўсе важныя падзеі ў сям'і. У прыватнасці, пра вяселлі і пахаванні — яны па-рознаму будуць ляцець за нябожчыкам: пакінуць вулей альбо недзе знікнуць. Каб супакоіць іх, трэба прынесці ім кавалачак вясельнага каравая і прыкрыць вулей чорным сукном падчас пахавання. Часам вуллі адварочвалі ў час пахавання ў іншы бок. Аднак гэта бывае рызыкоўна. У сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя, у англійскім графстве Дэвон, раз'юшаныя пчолы пакусалі коней, якія везлі труну. Жывёлы панесліся на жалобнае шэсце. Вінаваты ў здарэнні аказаўся слуга, які няправільна зразумеў панскі загад і, замест таго, каб адвярнуць вуллі, перавярнуў іх уверх дном!

На працягу стагоддзяў яны лічыліся не вытворцамі мёду, а толькі яго збіральнікамі. Мёд быццам бы паходзіў з патойбаковага свету. Па словах рымскага гісторыка Плінія, гэта быў пот неба, сліна зорак ці паветраныя адходы. Мабыць, ён падаў з неба да світання, а раніцай яго можна было знайсці на лісці.

Паходжанне пчол было аднолькава незразумелым. Іх лічылі пазбаўленымі полу або ўсе самкамі. Гэта аказалася трохі праўдай, таму што, як і ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя, выявіў Ян Дзержань, пчолы могуць размнажацца без самцоў (маці адкладае два віды яек: аплодненыя і неаплодненыя; з першых выходзяць маткі і рабочыя, а з другіх — трутні). Не дзіўна, што ў паўсядзённай мове яны ўвасаблялі гультаёў, якія жывуць з чужой працы, у адрозненне ад пчол, увасаблення працавітасці. Больш за 3000 гадоў таму ювеліры з Мінаса вырабілі на залатой брошцы дзвюх работніц, падымаючых сонечны дыск у неба...

чытайце ☞ 11




# https://belarusdocs.com

Дакументальныя фільмы — гэта вялікая плынь у кінамастацтве. Менавіта яны часам становяцца моцнай зброяй для прапаганды, але таксама праз іх можна пабачыць тыя бакі нашага жыцця, якія часцяком мы не заўважаем у штодзённай мітусні. Фестывалі дакументальнага кіно даволі папулярныя ў свеце і праходзяць іх шмат. Таксама часцяком дакументальныя фільмы спаборнічаюць у адмысловай намінацыі на знакамітых кінафестывалях.

У беларускай краіне новыя працы кінадакументалістаў можна пабачыць на Мінскім міжнародным кінафестывалі „Лістапад", які ўжо набыў некаторую вядомасць. Але ёсць і іншыя фэсты, хоць і менш вядомыя. Адзін з іх — BelarusDocs, сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе https://belarusdocs.com. Яго адметнасць у тым, што ён пазіцыянуецца выключна як анлайн-мерапрыемства. „BelarusDocs — гэта анлайн-фестываль актуальнага беларускага дакументальнага кіно. Праводзіцца з 2016 года. Папярэднія фестывалі (у 2016 і 2018 гадах) адбыліся на пляцоўцы партала tut.by, з 2020 года — на асобным сайце belarusdocs.com", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, а таксама ў рубрыцы „Пра нас".

Паводле пададзенай там інфармацыі, за фестывальны тыдзень у межах праекта BelarusDocs дэманструюцца сем фільмаў беларускіх аўтараў пра беларускую рэчаіснасць. „У праграме — фільмы, якія адлюстроўваюць важныя для грамадства тэмы, маюць мастацкія якасці і зазвычай — добрую фестывальную гісторыю. Кожны фільм праграмы даступны для анлайн-прагляду на працягу сутак (ад 00.00 да 23.59 па мінскім часе) на сайце belarusdocs.com. Усе фільмы дэманструюцца з англійскімі субцітрамі", — кажуць якія арганізатары, якія ўзялі сабе ў партнёры амбасаду ЗША ў Беларусі, аб'яднанне медыя-прафесіяналаў „Прэс-клуб Беларусь", фундацыю з Польшчы EU&P і хостынг-правайдэра Hoster.by.

На мэце фестывалю — прапанаваць для прагляду шырокаму колу гледачоў (найперш — у Беларусі) найбольш адметныя беларускія дакументальныя фільмы апошніх гадоў.

Дарэчы, апошні фестываль прайшоў акурат у мінулым месяцы. З 7 па 13 красавіка на сайце можна было паглядзець прадстаўленыя дакументальныя фільмы аб беларускім жыцці. Паводле размешчанай на галоўнай старонцы інфармацыі, больш за 15,5 тыс. чалавек з амаль 60 краін пparticular глядзелі 21 фільм, што дэманстраваўся на BelarusDocs.

Як на кожным фестывалі, адзін з фільмаў сёлета таксама быў вызначаны лепшым. Гэта дакументальнае кіно „Дэбют" пра тэатр жанчын, што адбываюць за кратамі свой тэрмін пакарання. „У папраўчай калоніі ў цэнтры Гомеля адбываюць пакаранне паўтары тысячы жанчын. Сюды трапляюць толькі тыя, хто парушыў закон упершыню. Не страціць сябе дапамагаюць толькі рэпетыцыі турэмнага тэатра..." — так анансуецца фільм. Праўда, у цяперашні момант яго паглядзець на сайце немагчыма, затое застаўся трэйлер, па якім можна скласці больш поўнае ўражанне аб гэтай дакументальнай стужцы.

Таксама да кожнага фільма на сайце размешчаны водгукі гледачоў. Меркаванні тых, хто паспеў за час фестывалю паглядзець прадстаўленыя працы дапамогуць у разуменні задумкі аўтараў. Акрамя гэтага, да кожнага фільма дадаецца расповед пра рэжысёра карціны, а таксама тыя фільмы, што гэты чалавек зрабіў за перыяд сваёй творчай дзейнасці на дадзены момант.

**Аляксандр ЯКІМЮК**




## *110 гадоў з дня нараджэння*
# Апанаса ЦЫХУНА

Беларускі краязнавец, педагог, пісьменнік Апанас Цыхун нарадзіўся 5 траўня 1910 г. у вёсцы Кунцаўшчына (Гродзенскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1927-1932 гг. вучыўся ў Гродзенскай настаўніцкай семінарыі. Пярэдадні Другой сусветнай вайны служыў артылерыстам у Вільні, пазней у 1939 г. бараніў Варшаву, трапіў у палон да фашыстаў. Паводле савецка-нямецкага пагаднення салдат польскага войска, якія нарадзіліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, перадавалі ў СССР. На шчасце Цыхуну, які зразумеў, што яго вязуць з аднаго канцлагера ў іншы, удалося збегчы з цягніка. Але ў 1944 г. быў арышт — энкавэдысты хацелі даказаць, што ён шпіён, якога скінулі на парашуце.

Пасля вайны скончыў Гарадзенскі педінстытут. Працаваў завучам Лашанскай сямігадовай школы, дырэктарам Капцёўскай сямігадовай школы, настаўнікам СШ № 2 у Гродне, дырэктарам Каўбасінскай пачатковай і Батароўскай васьмігадовай школ, інспектарам аддзела народнай асветы Гродзенскага райвыканкама. Працаваў на глебе беларускага школьніцтва, многія гады кіраваў літаратурным аб'яднаннем. Дапамагаў іншым беларусам. Так дапамог з працай вязню ГУЛАГу Уладзіміру Кіслю, калі той, выйшаўшы на волю, прыехаў у Гродна і не меў дзе прыткнуцца. З 1937 года да канца жыцця Цыхун пражываў у Гродне. Выхаваў трох сыноў. Займаючы розныя пасады, выгадаваў шмат сваіх паслядоўнікаў у галіне адукацыі, культуры. Атрымаў беларускія і замежныя ўзнагароды за ўдзел у вайне і дасягненні ў мірны пасляваенны перыяд.

Апанас Цыхун апрача сваёй асноўнай працы аддаваў шмат часу вывучэнню гісторыі і культуры, гісторыка-культурнай спадчыны Гродзеншчыны, збору твораў вуснай народнай творчасці, грамадскай дзейнасці. Ён уздоўж і ўпоперак абышоў і аб'ехаў Гродзенскі раён, усе яго населеныя пункты. Занатоўваў цікавыя словы, пачутыя ад сваіх землякоў, якія адсутнічалі ў слоўніках. Першыя кнігі Апанаса Пятровіча сталі выходзіць, калі аўтару было ўжо за восемдзесят.

Многія гады Цыхун папулярызаваў асобу заснавальніка беларускага мовазнаўства Яўхіма Карскага. У 1992 годзе з друку выйшаў краязнаўча-біяграфічны нарыс „Акадэмік з вёскі Лаша". Цыхун разам з аднадумцамі дамогся стварэння школьнага музея ў Лашы непадалёк Гродна. На жаль, пазней гэты куточак быў занядбаны, экспанаты з радзімы акадэміка перанеслі ў адну з гарадскіх гімназій. З-пад пяра Цыхуна выйшлі таксама зборнікі „Легенды і балады Гродзеншчыны", „Песні з народных глыбінь", „Пройдзеныя шляхі-пуцявіны (запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)". Апошняя кніжка, перш чым выйсці, друкавалася ў „Ніве". Унікальнай працай стаў складзены Цыхуном слоўнік „Скарбы народнай мовы", у якім адлюстраваны характар і адметнасць вясковай мовы прынёманскай старонкі.

Многія гады ён абіваў парогі ўладных кабінетаў, пісаў лісты, дамагаючыся помніка Давыду Гарадзенскаму. Камень з памятнай шыльдай цяпер стаіць паблізу Нёмана ля Каложскай царквы. Каб не Цыхун, не было б і да сёння гэтага адметнага знака. Але на адкрыцці помніка галоўнага ініцыятара яго ўсталявання ўлады не запрасілі.

Памёр Апанас Цыхун 10 сакавіка 2005 года. Пахаваны на гродзенскіх могілках па праспекце Касманаўтаў. У Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Яўхіма Карскага захоўваецца фонд Апанаса Цыхуна. У гімназіі № 1 Гродне ў музеі Карскага зроблены стэнд, прысвечаны памяці Цыхуна. У вёсцы Луцкаўляны ў музеі захоўваюцца асабістыя рэчы і дакументы. У Гродне ў яго гонар названа вуліца.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Старажытныя егіпцяне лічылі, што пчолы нарадзіліся са слёз бога сонца Ра. Грэкі атаясамлівалі іх з Вялікай Багіняй, жонкай Уладара Грому, самага важнага з багоў. Часам іх бачылі як яго зброю — ажыўленыя маланкі, якімі бог аддаваў справядлівасць. Пчолы лічыліся святаркамі багіні ўрадлівасці Кібелы і жрыцы Арцеміды ў Эфесе (багіня ўяўлялася ў выглядзе пчалы). Пчала знаходзілася на рэверсе эфескіх манет, а еўнухаў у тамашніх гарэмах называлі, як жа іначай — «трутнямі».

Магамет верыў, што пчолы могуць залятаць у Рай, адкуль яны родам. Біблейскія легенды бачылі іх як «маленькіх Божых служак» і першых жыхароў біблейскага Раю. Хрысціянства нават бачыла падабенства паміж пчоламі і Хрыстом — гэтак жа, як і Збаўца, яны гінуць (засынаюць на зіму) і зноў уваскрасаюць (прачынаюцца вясной).

«Знаёмства» з багамі набілітавала не толькі пчол, але і мёд. У легендах гэта была ежа сонца, а ў грэчаскай міфалогіі кампанент нектару, напою алімпійскіх багоў, а таксама амброзіі, іх ежы. Была нават версія міфа, у якой Зеўса-малечу ў крыцкай пячоры карміла не каза Амалтэя, а пчала Меліса!

Частавалі мёдам традыцыйна душы памерлых. Таму гэта важны складнік куцці. У сваю чаргу, грэкі клалі мядовы пірог у магілы — разам з аболем у роце памерлага: трэба было падкупіць ахоўніка падземнага свету, Цэрбера. Вавілонцы і персы выкарыстоўвалі мёд — як сімвал вечнага шчасця — для бальзамавання нябожчыкаў.

Пчолы лічацца ўвасабленнем чалавечых душ — нельга іх забіваць ані праклінаць. Старажытныя пісьменнікі Луцый Калумела (І стагоддзе) і Эліяній Тактык (ІІ стагоддзе) сцвярджалі, што пчолы па сваёй прыродзе чыстыя і выяўляюць хлусоў і распуснікаў. У старажытнагрэчаскай вёсцы як доказ цнатлівасці лічылі праход некранутым каля раўшыхся пчол.

Іх з'яўленне можа прадвесціць смерць. Калі яны выраяцца дома — ці на гарышчы, ці ў жылых памяшканнях — гэта можа азначаць, што яны прыйшлі забраць каго-небудзь з хатніх з гэтага свету. Але, хаця яны суправаджаюць смерць, яны праваднікі душ, паказваючыя памерлым шлях у замагільнае жыццё. Таму без пчол жыццё і смерць былі б больш складанымі. І ... менш смачнымі.

Альберт Эйнштэйн меркаваў, што калі пчолы вымруць, то праз чатыры гады прападуць і людзі. Магчыма, вялікі фізік трохі перабольшваў, але эксперты аднадушныя: спачатку знікненне пчол выкліча каласальны харчовы крызіс. У Расіі зафіксавана нядаўня выпадкі масавай гібелі пчол у Татарстане, Башкірыі, Варонежы, Ліпецку, Курску, Ніжнім Ноўгарадзе, Растове, Краснадары, Алтаі і Стаўрапалі, у агульнай колькасці як у мінімум дваццаці рэгіёнах.

На думку спецыялістаў па пчалярству, лік пчол, якія жывуць у Расіі, за апошнія 13 гадоў скараціўся ўтрая. Калі дынаміка іх вымірання будзе захоўвацца, то праз 20 гадоў пчол у Расіі больш не будзе. Так што калі верыць стваральніку тэорыі адноснасці, нам засталося да жыцця недзе 24 гады. Пчолы таксама гінуць у Амерыцы, Еўропе і Азіі. У цэлым за апошнія пяць-дзесяць гадоў, паводле ацэнак экспертаў, папуляцыя дзікіх пчол скарацілася на 25-30%, а лік іх прыручаных сваякоў прыблізна ўдвая. Навукоўцы кажуць, што глабальнае пацяпленне ўплывае і на пчол. Павышэнне тэмпературы ўнутры вуллёў не дазваляе насякомым цалкам пагрузіцца ў спячку, таму яны хутка спальваюць запасы тлушчу і прачынаюцца аслабленымі вясной. Пчолы таксама падвяргаюцца рызыцы ўзнікнення розных вірусных інфекцый, паразітаў (напрыклад, кляшчоў) і грыбоў. На думку спецыялістаў Расельгаснагляду, масавая гібель пчол у розных рэгіёнах Расіі выклікана бескантрольным выкарыстаннем пестыцыдаў у апрацоўцы раслін.

Ці спраўдзяцца цёмныя абвесткі Эйнштэйна і Бабы Вангі?..

**Міра ЛУКША**



# Бабры змагаюцца за Баброўку

Рэчка Баброўка — прыток Нараўкі, а затым тая з'яўляецца прытокам Нарвы. Знаходзіцца яна на тэрыторыі перш-наперш салэцтваў Новае Ляўкова і Тарнаполь Нараўчанскай гміны. Яна ў маёй памяці з дзяцінства., а гэта амаль 70 гадоў. Памятаю яе дзікай. Вясной і восенню выступала яна з берагоў і залівала сенажаці. Немагчыма было касіць і высушыць атаву. Сяляне не маглі прызапасіць сена для кароў на зіму. Новаляўкоўцы дамагаліся (нават у паслоў Сейма, быў я на двух такіх вясковых сходах, у тым на адным у хаце маіх бацькоў), каб меліяраваць Баброўку. І гэтага дабіліся. Рэчку раскапалі і выпрасталі, як кажуць, пад лінейку. Прапала ў ёй рыба, ракі і рачныя вадзяныя расліны. А зараз лугі стэпавеюць, трава слабенькая і хутка засыхае.

Баброўка, Баброўка, а дзе ж тыя бабры, неаднойчы я так падумаў. Ды вось, нядаўна, бо перад самым Вялікаднем, пайшоў я берагам Баброўкі ў яе сярэднім цячэнні і ўбачыў запруджаную бабрамі раку. Гэта для мяне вялікая неспадзеўка! Бабры не звяліся. Далей ісці берагам вадаёма было немагчыма, стаяла вада, балота. Трэба было брысці бокам, бокам. У гэтым месцы ў зарасніках убачыў я шырокі бетонны масток над колішнім карытам — старым рэчышчам Баброўкі. А бабры пабудавалі дзве, так назваць, міні-плаціны. Адной перагарадзілі своеасаблівы вадаём-стаў пасярэдзіне, па-мойму — на ўсякі выпадак застрахаваліся. Відаць, што бабры маюць прадбачлівых і вопытных інжынераў.

Зараз у верхнім цячэнні Баброўкі вады пад дастаткам. Тут ваду п'юць зубры з усёй ваколіцы і, між іншым, г. зв. Дзікага захаду. Апрача таго пасяліліся дзікія качкі. У гэтую пару года днём прыемна спяваюць жаваранкі. На беразе рачнога става цвітуць лотацi.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. прычына пакарання = 32 _ 24 _ 20 _ 21 _;
2. гідратэхнічнае збудаванне ў выглядзе штучнага насыпу для агароджвання вадасховішча = 1 _ 33 _ 23 _ 10 _ 7 _;
3. абрад памінання нябожчыкаў = 14 _ 15 _ 13 _ 8 _ 12 _;
4. тонкі слой крышталяў на ахаладжанай паверхні = 5 _ 11 _ 26 _ 27 _;
5. ліпкае рэчыва для змацоўвання прадметаў = 4 _ 25 _ 34 _ 22 _;
6. галоўная рака паўночнай Італіі = 6 _ 9 _;
7. журба = 31 _ 2 _ 3 _;
8. верхняя частка чэрапа = 17 _ 16 _ 19 _ 18 _;
9. на ёй галава = 28 _ 29 _ 30 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | | | | | 31 | 32 | 33 | 34 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Ака, маг, мера, Ной, поле, серада, сонца, Тыбет, хамут.

Рашэнне: **Той, хто сам сабе лекарам, мае дурнога пацыента**.

# 10.05 — 16.05

**(22.03. — 20.04.)** 9-11.05. кожная інвестыцыя вернецца табе ўдвая. 9-12.05. не паддайся спакусе зрабіць штосьць чужым коштам. Партнёрскія і сяброўскія адносіны будуць самыя паспяховыя. З 15.05. не ангажуйся ў дзеянні, якія апрача сумніўнага задавальнення не прынясуць ніякага прыбытку. Шыкуецца палымяны раман, пасля якога цяжка будзе табе апрытомнець.

**(21.04. — 21.05.)** 10-12.05. пільнуй свой язык. 13-17.05. будзеш мець сілу патрэбную для рэалізацыі найцяжэйшых намераў. З 13.05 будзеш прагны! Можа папсавацца табе здароўе. Будзеш менш плённы, на шмат спраў будзеш глядзець праз прызму былых параз. Не дай сябе загнаць у казіны рог! Не зыходзь з абранага курсу!

**(22.05. — 22.06.)** 10-12.05. работа будзе табе гарэць у руках. Калі ў пачуццях захаваеш памяркоўнасць, пазбегнеш расчараванняў. Могуць нахлынуць на цябе сумныя думы, пачуццё недахопу перспектыў, злосць і празмернае крытыканства. Ды настрой будзе папраўляцца! Новыя шанцы ў хатніх справах.

**(23.06. — 23.07.)** З 13.05. узнагароджаны будуць твае высілкі Дасі панесціся жарсцям і не будзеш звяртаць увагі на тое, што аб табе гавораць іншыя! Ракі народжаныя пасля 17.05. змогуць пераносіць горы! Ракам з 12-16.05. прадбачваюцца добрыя выпадкі. Справішся з выпрабаваннем лёсу.

**(24.07. — 23.08.)** 10-14.05. рыхтуецца няспынная пасма поспехаў — найбольш у прафесійных і фінансавых справах. 12-16.05. зважай на людзей — хтосьці схоча выкарыстаць тваю дабрыню і наіўнасць; таксама і партнёр можа цябе падмануць. Дарэчы, — без захопніцтва ў пачуццях! З 13.05. большы прыліў грошай

**(24.08. — 23.09.)** У пачуццях будзь больш непасрэднай. Усё зменіцца на лепшае. Затое вырашаючы аб прафесійным — не паддавайся сантыментам. Беспадстаўныя апаскі наконт свайго здароўя. 10-12.05. не марнуй часу на драбязу. Новым ініцыятывам спрыяюць зоркі.

**(24.09. — 23.10.)** З 16.05. адчуеш, што ты быццам у шапачцы народжаны! Сваім аптымізмам і адкрытасцю з'яднаеш сімпатыю атачэння. З 15.05. зважай, каб каго не параніць. У пачуццях ты шчыры і адданы, нават без узаемнасці. З 13.05. можаш стаць ахвярай чужога фальшу; будзеш крыху лянівы.

**(24.10. — 22.11.)** Прыцягваць цябе будуць асобы ад цябе зусім адрозныя. Перад табой удалыя падарожжы і шмат прафесійных поспехаў. Буйнее тваё кампанейскае жыццё. Могуць пабольваць запушчаныя зубы ці гланды. Не трацъ пільнасці! Пазмагайся за пасаду.

**(23.11. — 22.12.)** З 16.05. пачне аж залiваць цябе струмень шчасных хвілін! Варта падумаць аб пакупках, інвестыцыях, карысным крэдыце. Будзеш не толькі гарачым, але і патрабавальным партнёрам! Пасля 15.05. пакажаш поўню сваіх магчымасцей.

**(23.12. — 20.01.)** Новае каханне будзеш распешчваць і проста насіць на руках. Не будзеш пазбягаць добрай кампаніі, знакамітай забавы, смачных напояў і страў. Здзейснішся як знакаміты працаўнік і клапатлівы шэф. Пачуццё патрэбы глыбокай перамены жыцця. Пасля 15.05. чакае цябе ўзнагарода. З таго часу будзеш збіраць добры плён.

**(21.01. — 19.02.)** Паплывуць да цябе грошы. Да 14.05. будуць выклёўвацца ў тваёй галаве толькі геніяльныя ідэі! З 16.05. — свабода выказвання пачуццяў, лёгкасць наладжвання кантактаў (могуць яны стаць надта цікавымі знаёмствамі). Будзеш вельмі папулярным у кампаніі. Можаш назбіраць грошай без лішняй ашчаднасці.10-12.05. магчымы крызіс сярод сяброў. Пачнеш больш дбаць аб сябе.

**(20.02. — 21.03.)** 10-12.05. не дапусці да памылак, спазненняў і «хвастоў». 10-12.05. зробіш штосьці, чым будзеш ганарыцца Не слухай нічыіх парад, асабліва асоб, якія хочуць цябе знеахвоціць (іх клопат папахвае зайздрасцю). На тваёй дарозе могуць паявіцца рыфы, ды абмінеш іх шчасліва, асабліва калі трапна разгледзіш сітуацыю. Кіруйся інстынктам, ды не забывайся на здаровы розум! З 13.05. (да 31.05.) неабдуманыя, імпульсіўныя дзеянні могуць папсаваць твае адносіны з людзьмі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Сакрэт мясцовай тапаніміі


Бартошыха


Юрчыха

Джэф Джонкінс з канадскага Royal Potatown University прыводзіць невядомае дагэтуль апісанне падарожжа арабскага вандроўніка Алі ібн-Бульбалі. Апісанне тое было знойдзена ў нядаўна прашуканых фондах універсітэта ў Саламанцы. Вандроўнік жыў недзе ў пачатках толькі што мінулага тысячагоддзя, змоладу адукаваўся ў Кордаве і дапытліва зведаў амаль увесь тады вядомы свет. Раней былі вядомы ягоныя дзённікі з падарожжаў па найбліжэйшай яму Іберыі, па недалёкай Афрыцы ды па марскіх і сухапутных шляхах Леванта. А вось абнародаваныя Джэфам Джонкінсам занатоўкі раскрываюць вытрымкі з невядомага дагэтуль сціпленькага апісання падарожжа ў сухапутную глыбінку Еўропы.

У Кракаў Алі дабраўся разам з купецкімі абозамі. У тую эпоху камерсантам і іншаму вандроўнаму народу прыходзілася ездзіць у шматлікіх калонах з рупліва сарганізаванай аховай ад ласых лёгкай здабычы разбойнікаў, якія цікавалі перш за ўсё на заблуканых аднаасобнікаў; колькі такіх камерсантаў і ім падобных не даехала да намечаных сабою рынкаў, здаецца, ніхто, ніякі даследчык, нават у прыступе найбольшага энтузіязму, не пасмеліцца палічыць а нават прыблізна ацаніць. А Алі меў жа з сабою мяшочак сярэбраных дырхемаў на расходы ў нязведаным дагэтуль свеце ды крышку іншых менш кідкіх каштоўнасцей...

У Кракаў Алі дабраўся тады з трапятаннем душы, але шчаслівы; ягонага сакваяжу ніхто не апарожніў, а нават не падскубаў. У каронным горадзе даведаўся ён, што за гарадскімі сценамі, апрача той дарогі, па якой яго прывезлі бывалыя камерсанты, ёсць толькі амаль непраходныя прасекі цераз лясныя гушчары, па якіх найлягчэй прабірацца коннаму каралеўскаму рыцарству; далей яму будзе зручней падацца па цячэнні прыгараднай рэчкі, якая недзе далёка ўліваецца ў мора. Што было рабіць? Пра вяртанне ў цёплыя краіны не было і думкі ў дапытлівага падарожніка, затое рэйс па новых водах здаўся яму прывабным. Таму рашыў ён зняць лодку з вадаплаўцам, бывалым кракаўскім абывацелем, які настолькі добра ведаў мову разналюдных тадышніх камерсантаў, што можна было з ім сяк-так абменьвацца элементарнымі экзістэнцыяльнымі паняццямі; прозвішча кракаўскага мешчаніна, на жаль, не захавалася ў падарожных занатоўках.

Той праваднік-вадаплавец, як запісаў ваяжор з далёкага свету, аказаўся звычайным прайдзісветам, які неўзабаве, калі каралеўскі замак схаваўся за небакраем, кінуўся на вандроўніка, намагаючыся скінуць яго з лодкі ў раку. Але не на такога трапіў. Алі быў спрактыкаваным падарожнікам, з не адной печы еў хлеб, розным небяспекам ставіў свой натрэніраваны ў моладасці вопыт пераадольвання праціўнасцей. Алі з гэтай схваткі выйшаў сухім з вады; што сталася з кракаўскім хітруном, падарожныя запіскі далёкага вандроўніка нават не згадваюць. Няма таксама згадак, якім чынам Алі прадаўжаў сваё падарожжа; верагодна кароткатэрмінова згаджаў сабе за спадарожніка штораз некага іншага, але пра гэта невядома, бо ў запісках згадваецца толькі плаў лодкі без згадкі пра экіпаж. Можна, аднак, здагадвацца, што ў дарозе былі ў яго размоўцы, ад якіх ён, як пазней акажацца, крыху падвучыўся мовы тамашняга насельніцтва...

Пра далейшае плаванне па рэчцы, якой верагодна была Вісла, таксама маўчок, бо назіральны падарожнік са знатнага свету прысвячаў сваю ўвагу больш творам чалавечых рук, чым багаццю прыроды, па якой каціла свае воды сталічная рака, а па ёй і лодка з далёкім госцем. Твораў чалавечых рук было там мала і яны ніяк не маглі захапіць бывалага ў свеце чалавека. Праўда, спыняўся ён час ад часу каля надрэчных сціпленькіх паселішч, каб пасілкавацца нейкай печанай у вогнішчах тамашніх абарыгенаў ежай. Аднак і пануючай у краявідзе прыродзе давялося вандроўніку прысвяціць крыху занатовак. Здарылася ж так, што надвор'е ў нейкі момант стала крайне неспрыяльным, абрынуліся дажджы, залютавалі віхуры. І вось гэтыя неардынарныя падзеі збілі з толку бывалага вандроўніка ды яго верагоднага праваднікa і лодка заміж плынь па цячэнні, у зліцці рэк павярнула ў тое рэчышча, у якое спіхаў яе ашалелы вецер. І паплыла яна супраць цячэнню. І нават няцяжка плылося, бо са спадарожным ветрам, а плынь вады была лагодная, амаль запрашаючая весляваць супраць цячэння; мясцовыя рэчкі былі ціхія, не тое, што родны яму бурлівы Гвадалквівір. І быў пазней запісаў госць здалёк у сваіх занатоўках, што быў такім ходам спраў задаволены, бо паглыбляўся ён у штораз больш прыманкавую, глухую, экзатычную яму глыбінку.

Як доўга трывала плаванне, мемуарыст не запісаў. Лодка ўбівалася ў штораз больш вузкія рэчкі, у штораз гусцейшую лясную глуш, у штораз больш глухую дзіч. І калі ўжо ручаёк, у які яна ўбілася, так змізарнеў, што немагчыма было далей плыць, што ўбілася яна ў тупік, убачыў Алі мясцоваплямённае паселішча. Пражываючыя там людзі гаварылі на нейкай зноў іншай мове, але бывалы ў людзях вандроўнік назапасіў столькі дагаворнага вопыту, што і з імі сяк-так дамаўляўся.

Колькі часу правёў там госць — дакладна невядома, знойдзеныя запіскі пра гэта не згадваюць. Таксама скупавата было напісана пра побыт тамашніх абарыгенаў. Можа жыццё гаспадароў тае мясціны было так жахлівае, што мемуарысту было папросту млосна пра яго згадваць. Ёсць згадка пра жытло, якое Джэф Джонкінс называе словам cave; мабыць мова тут пра зямлянку. Нішто ж у тым панурым прыродным краявідзе не нагадвала Алі пра ягоную родную Андалузію ці пра зведаныя ім раней шматлікія пазалочаныя сонцам краіны. Яго, мабыць, мучыла туга па прыжытых у раннім узросце краявідах, бо ў запісках не скупіць ён сантыментальных пра іх успамінаў, амаль зусім ігнаруючы прахалодныя мясцовыя; відаць, паўднёваму палымянаму тэмпераменту былі яны не па душы.

Пісаў ён: „Няма там нічога лагоднага, нават дрэвы востраканечныя, не тое што круглакронныя кедры Лівана. Адзінае, што нагадвае купалы Кордавы, Маракеша ці Багдада гэта тамашнія жанчыны. І лагодненькія яны, і цёпладушныя, быццам залацістыя пяскі вакол афрыканскіх аазісаў. Іх вочы блакітныя, як афрыканскае неба, бірузовыя і бліскучыя як мора вакол Сіцыліі ўзрыхленае лёгкім подыхам брызу. Іх валасы залацістыя як аблокі над егіпецкімі пірамідамі. Звонкая, далікатная мова іх пажадлівых вуснаў незразумелая, але вобмацкам яны цалкам згаворлівыя, зваблёныя кавалачкам шоўку ці таннай бліскаўкай..."

Бывалы ў свеце, назіральны ваяжор неўзабаве заўважыў, што над тамашняй сціплай грамадой сталі збірацца цёмныя хмары, настрой станавіўся штораз больш пануры, як і тамашняе, як жа іншае ад андалузскага, надвор'е. Што нешта не так, што нешта ў іх не ладзіцца. Абставіны абвастраліся. Аднойчы частка жыхароў мясціны з гневам накінулася на жанчыну, якой імя не прыводзіцца, але прыводзіцца імя ейнага мужа — Georgjick — такое прынамсі расшыфраваў з запіскаў Алі Джэф Джонкінс. А зноў іншая групоўка накінулася на іншую жанчыну, муж якой згадваецца пад клічкай Burtosh. І той Джорджыкавай жонцы настаючыя на яе тамземцы варожа тыцалі пад нос здохлага пеўня, а зноў Бартошавай — здохлага чорнага ката. У адзін з чарговых дзён дайшло да агульнай катавасіі, да такой бойкі, якой бывалы ж у шырокім свеце падарожнік яшчэ не бачыў.

Трывога ахапіла нашага вандроўніка — як весці сябе ў абставінах такога лютага канфлікту. Сцяміў ён, што жанчын абвінавачвалі ў нейкіх зламысных планах, у зламысным вядзьмарстве. Не спадзяючыся скорага міру ў далёкай ад яго айчыны мясцовасці і пабойваючыся, што і на яго, як на магчымага прыносьбіта тамашняга раздору, ці якой іншай надуманай бяды, таксама могуць небяспечна разліцца лютыя страсці, ён не чакаў вырашэння таго грамадскага канфлікту, але ў хвіліну перамір'я нізка ўсім раскланяўся, сеў у лодку і пакорліва пакінуў экзатычную яму мясцовасць — так больш-менш, паводле Джэфа Джонкінса, апісаў Алі развітанне. Пра далейшае падарожжа запіскі многа не згадваюць; ёсць толькі даведка, што Алі рэчкамі заплыў аж на мора, як мяркуе Джэф Джонкінс, у Гданьск. Там дамовіўся з мараплаўцамі, якія завезлі яго ў Гандаву. А з Гандавы дабраўся да андалузскага Хераса і там апісанне падарожжа Алі ібн-Бульбалі завяршаецца...

Можа гэтая падарожная хроніка прайшла б праз мяне як вада цераз рэшата. Але зачапіліся мне за вока імёны мужоў тых сонечнай красы жанчын, што выклікалі такое хваляванне недзе ў вярхоўях басейна Віслы, недзе на мяжы яе водападзелу. А той жа водападзел акурат у нас — ці не ў наша старонне трапіў тысячагоддзем таму далёкі вандроўнік? А калі яшчэ дакладней прыглянуцца нашай мясцовай тапаніміі, то такая здагадка падаецца цалкам верагоднай. Недалёка за Васількавам ёсць дзве рачулкі, якія маюць даволі асаблівыя назвы: Юрчыха і Бартошыха — гэта прытокі рачулкі Чорнай, якая ў сваю чаргу з'яўляецца прытокам Супраслі... І тыя назвы рачулак феміністычнага паходжання — ад жонкі нейкага Юркі, якога часта ў нас альтэрнатыўна называюць Жоржыкам, ды ад жонкі нейкага Бартоша; дробныя адрозненні ў мянушках магчымыя, бо ж пісарам і перапісчыкам здараюцца чыста людскія недакладнасці. Ну, падводзячы — быццам назвы тых рачулак выводзяцца проста з апісання падарожжа Алі ібн-Бульбалі. А паколькі меркаваць з апісання трэба, што займаліся тыя жанчыны вядзьмарствам, то цалкам магчыма, што ў выніку закалоту ў мясцовасці іх пражывання тамашнія жыхары дзеля вяртання грамадскага міру і выкаранення вядзьмарства, тых дзвюх жанчын, нягледзячы на іх сонечную красу, толькі гледзячы на іх цёмныя душы, папросту ўтапілі. Юрчыху ў адной рэчцы, а Бартошыху ў другой. Аднак самі вядзьмаркі не канулі ў ваду — яны былі ўвекавечаны, і то двойчы: у апісанні падарожжа далёкага вандроўніка і ў нашай беластоцка-гродзенскай тапаніміі.

Цім ПАВОДЗІН

ISSN 0546-1960 19